4 верасня 2020 | № 33 (692)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ ПАДЗЕІ ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Расстрэл за «падрыў дзяржаўнай прамысловасці»**
**Стар. 10-11**

# «Мы жывем тут, таму што іншыя не могуць»

Кацярына ШУСТ

**Як шмат цудоўных людзей цяпер пакідаюць Беларусь. Як шмат кампаній пераязджаюць за мяжу. Як шмат маіх знаёмых апошнімі днямі пачалі размовы пра эміграцыю... Іх усіх лёгка зразумець. Складана зразумець, напэўна, не іх, а такіх, як я.**



Недзе год таму пісала, чаму я ніколі не з’еду з Беларусі, і разумею, што за гэтае лета аргументы толькі набралі вагі. Я не ўяўляю, як пасля ўсяго, што мы зрабілі, можна жыць без гэтай краіны. Як можна пакінуць яе. І разумею, што той чалавек, якім я ёсць сёння, — ну, можа, і не надта выдатны чалавек, і якім я сама не ганаруся, але чалавек, які столькі перажыў і так пабачыў жыццё, як не часта выпадае, — гэты чалавек мог узнікнуць толькі ў гэтай краіне.

Я ёсць сабой дзякуючы Радзіме і гэтаму неверагоднаму кантэксту. І, думаю, такое адчувае цяпер шмат хто.

І, магчыма, за апошні час паболела агрэсіі, злосці, нянавісці — але яна ў мяне накіраваная на строга вызначаныя аб’екты. А да людзей паболела пяшчоты, спагады, увагі. Усіх хочацца абняць, кожнаму дапамагчы, чым магчыма. Як можна жыць недзе ўдалечыні ад гэтых людзей? А галоўнае — навошта?

І, можа быць, камусьці гэта для таго, каб спакойна працаваць і годна зарабляць, сядзець па вечарах у бары, лётаць па выходных лоўкостам кудысьці — але ў мяне ў жыцці гэтага было зашмат, мне да такога ўжо не імкнецца. Спакойна хадзіць па вуліцах, не баяцца, адчуваць, што твае правы не парушаюцца і цябе не зневажаюць — гэта, канешне, важна. Але я хачу хадзіць па сваіх вуліцах. А чужыя мяне не вабяць нават з непарушанымі правамі.

А таму застаецца толькі заставацца. Змагацца, а калі прайграем — жыць далей, дзяліць гэтае жыццё з краінай, дзяліць з ёй і перамогі, і выпрабаванні. З людзьмі, якія застануцца, — таму што шмат іх, годных, вартых, смелых, светлых, усё роўна ж застанецца. «Мы жывем тут, таму што іншыя не могуць». Жыць далей, змагацца зараз, змагацца заўжды, падымаць галаву пры любой магчымасці. Кожны дзень...

Кожны дзень!

**Фота Дзмітрыя Дзмітрыева**














# «Тая сіла, што прывяла Лукашэнку да ўлады, можа прымусіць яго сысці»

**Лукашэнка пакуль карыстаецца падтрымкай дзяржапарату Беларусі. Але некаторыя чыноўнікі на знак пратэсту сыходзяць з дзяржаўнай службы. Што яны думаюць пра сітуацыю? DW пагутарыла з адным з дыпламатаў, які звольніўся з МЗС.**

Павел Мацукевіч быў адным з чатырох дыпламатаў, якія ў першыя дні пратэстаў пасля прэзідэнцкіх выбараў 9 жніўня публічна раскрытыкавалі дзеянні беларускіх уладаў. Выказванне Мацукевіча было, напэўна, самым прасталінейным. «Лукашэнка павінен сысці», — напісаў ён. Сваёй заявай супрацоўнік МЗС, па ўласных словах, хацеў выказаць «прынцыповую нязгоду як грамадзяніна, чыноўніка і дыпламата з гатоўнасцю кіраўніка дзяржавы адстойваць сваю ўладу любымі сіламі і сродкамі, цаной дабрабыту нашай краіны і, магчыма, коштам незалежнасці і суверэнітэту».

### «Кожны вырашае сам за сябе»

Мацукевіч вярнуўся са Швейцарыі ў Беларусь у канцы чэрвеня, і быў уражаны размахам гвалту на вуліцах сталіцы і іншых гарадоў у першыя дні пасля выбараў. «Я не мог сабе ўявіць, што такое можа адбывацца ў Мінску», — прызнаецца ён. І кажа, што рашэнне аб сыходзе з дзяржслужбы прыняў самастойна — з калегамі з гэтай нагоды не размаўляў і іх настрояў не высвятляў.

Свой крок — сыход з дзяржслужбы — ён лічыць самай малой стратай для сябе. «Людзі зніклі! Людзі загінулі. Людзі перажылі такія акты гвалту... І гэта рабілася сваімі ж... Беларусы падвергліі беларусаў такім рэчам. Страта працы ў цяперашніх умовах — проста дробязь», — перакананы былы дыпламат.

Што ён будзе рабіць пасля сыходу з МЗС, Мацукевіч пакуль не ведае — ён лічыць бессэнсоўным будаваць планы. «Цяпер планаваць — цалкам несур'ёзна, — разважае ён. — Ісці ў нейкі бізнес? Сам бізнес разважае пра сыход з Беларусі. Тут трэба перажываць пра лёс бацькаўшчыны, як бы пафасна гэта ні гучала».

### Што напішуць пра Лукашэнку ў падручніках гісторыі?

Мацукевіч як дзяржаўнік перажывае за Беларусь, якая, паводле яго, коціцца ў глыбокі крызіс «толькі таму, што адзін чалавек не жадае прызнаць выбар народа». У Лукашэнкі быў шанец увайсці ў падручнікі гісторыі для нашчадкаў, але цяпер, кажа Мацукевіч, «усе дасягненні, якімі мы ганарыліся і якія можна было б запісаць у актыў дзеючага кіраўніка, скасоўваюцца. Ён прымудрыўся нават сысці ў мінус».

Галоўнай стратай Мацукевіч лічыць разрыў стасункаў з Захадам. «Мы перасталі быць эканамічна незалежнымі, пазбавіўшыся заходняга вектару: інвестыцый, крэдытаў, другога крэсла для манеўру. Мы адыдзем да Расіі, не дэ-юрэ — ім патрэбны голас на міжнароднай арэне. А вось дэ-факта мы хутка і непрыкметна трапім у поўную васальную залежнасць».

Беларусь губляе і з вялікай цяжкасцю заваяваныя пазіцыі на IT-рынку, упэўнены Мацукевіч: «Цяпер нашым ключавым экспартам стане моладзь».

### Лукашэнка вядзе краіну «ў пекла»

Беларусь не была дэмакратыяй, але ранейшыя перамогі Лукашэнкі на выбарах хаця б можна было лічыць «легітымнымі ўнутры краіны», кажа Мацукевіч: «Так, таксама былі акцыі пратэсту і сядзельцы, — тут у беларусаў памяць кароткая, як быццам гэта першы раз ужыты гвалт да дэманстрантаў, як быццам ніхто не сядзеў у турме. Але насельніцтва прымала вынікі выбараў».

Цалкам відавочна, лічыць былы дыпламат, што абвешчаныя вынікі апошніх выбараў не адпавядаюць рэчаіснасці і не былі прынятыя людзьмі. Няспынныя больш за два тыдні акцыі пратэсту Мацукевіч называе «агульнанацыянальнай нязгодай».

Але Лукашэнка, хоць і ведае пра сапраўдны стан спраў («Немагчыма гэтага не бачыць», — упэўнены Мацукевіч), сапраўды лічыць сябе выратавальнікам і выбару народу не давярае. Лукашэнка «апраўдвае ўсё, што адбываецца, нейкімі добрымі намерамі, але гэта хуткасная дарога нашай краіны ў пекла», — перакананы былы супрацоўнік беларускага МЗС.

### Каардынацыйная рада «занятая не тым»

Простага выхаду з сітуацыі, якая склалася ў Беларусі, Павел Мацукевіч не бачыць. «Відавочна, — лічыць ён, — што мірныя пратэсты не ўяўляюць для дзеючага кіраўніцтва ніякай небяспекі». Час пратэстаў Лукашэнка выкарыстаў для таго, каб, як кажа Мацукевіч, «перафарматаваць» сітуацыю. Ён пераліčае ўсе, што выпрабавалі ўлады, спрабуючы пераламаць сітуацыю: акты гвалту, па яго словах, не далі эфекту, тады былі арганізаваныя альтэрнатыўныя мітынгі, падыходы да страйкоўцаў; улады прыцягнулі піяршчыкаў з Расіі, і «культывуюць» па дзяржаўных СМІ страхі перад эканамічнымі стратамі ад пратэстаў. «Нешта атрымалася, нешта не. Дзесьці яму ўдалося перахапіць ініцыятыву», — мяркуе былы дыпламат.

На гэтым тле дзейнасць Каардынацыйнай рады па транзіту ўлады (КР) у былога беларускага дыпламата не выклікае аптымізму. Мацукевіч лічыць бессэнсоўнай ініцыятыву КР па адкліканні мандатаў у дэпутатаў. «Парламент нябачны, нячутны і ролі не адыгрывае», — перакананы ён. Крытыкуе ён і патрабаванне аб адстаўцы кіраўніка МУС, які, паводле яго словаў, «не грае галоўную скрыпку», і іншыя заявы КР.

### Якая сіла можа паставіць ультыматум

Павел Мацукевіч упэўнены, што КР варта было б засяродзіцца на працы з працоўнымі калектывамі буйных дзяржаўных прадпрыемстваў. «Сіла, якая можа паставіць рэальны ўльтыматум і схіліць кагосьці да пераходу (у апазіцыю. — Рэд.) — гэта працоўныя з буйных прадпрыемстваў. Калі на прахадных буйных заводаў тыпу МТЗ пачуўся шоргат, ён быў пачуты. Тая сіла, што ў свой час прывяла Аляксандра Рыгоравіча ў 1994 годзе да ўлады, можа яго адтуль і адвесці», — перакананы Мацукевіч.

# Як не аддаць дзіця ў школу

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Беларуская сістэма адукацыі і без таго выклікала шмат нараканняў, але пасля падзей жніўня 2020 года многія бацькі і настаўнікі задумаліся пра тое, што з дзяржаўнай школай ім і іх дзецям не па дарозе.**

Выйсце з гэтай сітуацыі шукалі падчас канферэнцыі «Школа маёй мары», арганізаванай мамай 13 дзяцей Вікторыяй Онахавай-Жураўлёвай. Яе васьмёра дзяцей сёлета ў школу не пойдуць.

Сваіх дзяцей Вікторыя вырашыла перавесці на індывідуальны план навучання, яны будуць праходзіць школьную праграму дома. Па прадметах, з якімі мама, магчыма, не справіцца, будуць дапамагаць рэпетытары.

— Я думаю, усе, у каго ёсць дзеці-школьнікі, часта сутыкаюцца з расчараваннем ад сістэмы адукацыі ў Беларусі. Гэтая праблема цягнецца шмат гадоў, і мы ўсе — дзеці, бацькі, настаўнікі — з'яўляемся яе закладнікамі. Але сёлета мне стала зразумела, што працягвацца далей так не можа. Я не хачу, каб мае дзеці знаходзіліся ва ўмовах празмернага эмацыйнага ціску, каб школа навязвала нейкія паводзінныя патэрны, каб мне трэба было браць дадатковую адукацыю для маіх дзяцей у 9 і 11 класах. Мне здаецца, што можна вучыць дзяцей па-іншаму, у мяне ёсць такі досвед, калі двое маіх сыноў вучыліся дома на індывідуальным плане ў 1 і 4 класе. Гэта былі лепшыя школьныя гады ў іх жыцці, — гаворыць Вікторыя Онахава-Жураўлёва.

Вікторыя ініцыявала праект «Свабодная школа», створаны для таго, каб аб'ядноўваць бацькоў, дзяцей і настаўнікаў, агучваць свой запыт школе і грамадству і шукаць спосабы яго рэалізацыі. Шматдзетная мама прапануе бацькам вучняў кааперавацца і шукаць пад свой запыт настаўнікаў, памяшканні альбо пераходзіць на анлайн-навучанне. Гэта дазволіць зніžаць нагрузку на дзяцей з боку школьнай адміністрацыі і шукаць сябе.

Праект запушчаны менш чым тры тыдні таму, а ў многіх раёнах Мінска ўжо створаныя кааперацыі бацькоў, якія гатовыя з 1 верасня вучыць сваіх дзяцей па-новаму. І для гэтага не патрэбная ніякая структура зверху ў выглядзе Міністэрства адукацыі.

— Мне часта задаюць пытанне, як праходзіць атэстацыя такіх дзяцей. Атэстацыя праходзіць у школе, у якой аформлены індывідуальны план, дзецям выдаюць на рукі пасведчанне дзяржаўнага ўзору. Але высокія адзнакі — не самае важнае для нашых дзяцей. Важна атрымаць базу, шырокія веды, захаваць цікаўнасць у дзіцяці, каб яно магло шукаць веды, — гаворыць Вікторыя Онахава-Жураўлёва.

Беларускае заканадаўства дазваляе розныя формы індывідуальнага навучання, але не ўсе ведаюць свае правы ў гэтай галіне. Ва ўстановах сярэдняй адукацыі прадугледжаны тыпавы навучальны план, па якім займаюцца ўсе школьнікі. Але артыкул 31 Кодэкса аб адукацыі кажа, што кожны навучэнец мае права на навучанне па індывідуальным плане.

Азначэння «хатняе навучанне» ў Беларусі няма. Але навучальны план прадугледжвае, што, калі дзіця не можа па пэўных прычынах наведваць усе альбо нейкія асобныя прадметы, бацькі маюць права звярнуцца з заявай да ўстановы адукацыі. Навучанне па індывідуальным плане можа быць пастаянным, альбо цягам нейкага перыяду — гэта ў заяве трэба ўказаць. Таксама важна падмацаваць заяву дакументамі, якія стануць падставай для таго, каб дзіця можна было перавесці на індывідуальны план. Ёсць дзве катэгорыі дзяцей, якім прадастаўляюць магчымасць вучыцца індывідуальна: гэта калі дзіця надзвычай адоранае альбо калі не можа наведваць заняткі па стане здароўя. У першым выпадку падставай могуць стаць прафесійныя заняткі па нейкіх напрамках. Цягам 20 дзён кіраўнік установы разглядае гэтую заяву, задавальняе альбо не задавальняе яе. У заканадаўстве крытэры згоды альбо адмовы не прапісаныя. Парадак атэстацыі вучняў, якія праходзяць праграму па індывідуальным плане, — таксама, усё залежыць ад школы.

Нярэдка ў пераводзе на індывідуальны план навучання могуць адмовіць таму, што адміністрацыя школы баіцца сутыкнуцца з нечым невядомым. У школе павінны складаць планы індывідуальнага навучання, але не ўсе ведаюць, як гэта рабіць. Таму бацькі могуць прапанаваць сваю дапамогу.

Яшчэ важны момант: пераходзіць на індывідуальны план можна ў любы момант, таму не варта перажываць, калі вы не паспелі падаць заяву да 1 верасня. На практыцы для зручнасці перавод звычайна робіцца на пачатку чвэрці.

Эксперты звяртаюць увагу, што нярэдка пры пераводзе на індывідуальны план у вучняў зніжаюцца адзнакі. Таму трэба заўжды быць на сувязі з настаўнікамі і адміністрацыяй школы, каб не ўзнікла праблем з атэстацыяй.

Нярэдка стаўленне да дзяцей на індывідуальным навучанні бывае перадузятым — да гэтага трэба быць гатовымі. Але пагрозы сацыяльна небяспечным становішчам (СНП) у адносінах да такіх дзяцей не маюць пад сабой ніякіх падстаў. Калі адміністрацыя школы дазваляе сабе такія пагрозы, трэба пісаць пра гэта заяву ва ўпраўленне адукацыі.

Пры ўсім пры гэтым важна памятаць, што індывідуальны план патрабуе вялікай адказнасці і самаарганізацыі бацькоў, не кажучы ўжо пра тое, што павінна быць магчымасць быць з дзіцём дома. Таму такі метад навучання падыдзе не для ўсіх.

Ёсць яшчэ варыянт прыватных школ. Але асноўная праблема там — кошт навучання. Зрэшты, у некаторых з іх бываюць спецыяльныя праграмы, па якіх нейкі працэнт вучняў могуць прымаць на навучанне бясплатна альбо са зніжкай — так што вывучайце прапановы і выбірайце, які варыянт падыходзіць вам і вашым дзецям.

# «Мне сказалі, што будзе кроў, грамадзянская вайна. Так было лепей тады»

Таццяна ПРОЦЬКА

**Словы пра кроў і грамадзянскую вайну ўжо гучалі ў сучаснай Беларусі і, як ні дзіўна, былі звязаныя са спробай Лукашэнкі захаваць уладу. Было гэта падчас палітычнага крызісу 1996 года. Сёння ў нашай краіне зноў назіраецца маштабны палітычны крызіс.**



## Шэсць прычын крызісу

Ці не **галоўная прычына** палітычнага крызісу ў Беларусі — гэта каронавірус. Менавіта ён вымусіў большую частку людзей у Беларусі перагледзець свае погляды на жыццё. Ён паказаў летуценнасць «чаркі і шкваркі», іх недастатковасць для сапраўднага чалавечага шчасця. Вірус паказаў, што ён больш магутны за ўлады, і пазбавіў людзей ад страху перад ёю.

Без страху сярэднестатыстычны беларус змяніўся — у ім прачнуліся гонар і годнасць. Замест чаркі асноўнай жыццёвай каштоўнасцю стала свабода. Беларусы яшчэ не могуць дакладна сфармуляваць, што ёсць свабода ў іх канкрэтным жыцці. Але шматтысячныя шэсці па Мінску і іншых гарадах краіны, мэту якіх праўладныя палітолагі ніяк не могуць зразумець, далі людзям новыя пачуцці — свабоды і еднасці. Менавіта за гэтыя пачуцці беларусы згодныя цяпер нават пайсці на Акрэсціна. Як высветлілася, яны могуць і там адчуваць свабоду і еднасць.

**Другая прычына** — хлусня з боку дзяржаўных органаў, якая павялічылася падчас выбарчай кампаніі. Хлусня рознага кшталту і ад розных людзей — чаму сапсавалася вада, колькі сапраўдных хворых на каронавірус, колькі людзей памірае і іншае — спачатку толькі раздражняла. Раздражненне назапашвалася, павялічвалася і ператварылася ў іншае пачуццё, якому яшчэ не прыдумалі назву, але якое стала проста невыносным. Асабліва пакутуе ад гэтага моладзь: старэйшае пакаленне ў савецкія часы прызвычаілася да хлусні ўладаў. Моладзь савецкай прышчэпкі не мае, таму ці з'яджае ў іншыя краіны, ці пачынае змагацца супраць хлусні.

Апошняй кропляй стала абвяшчэнне вынікаў выбараў — такой маштабнай хлусні сцярпець сярэднестатыстычны беларус ужо не змог.

**Трэцяя прычына** — непаважлівае і зневажальнае стаўленне ўладаў да людзей, іх звычаяў, культуры, мовы, сімвалаў. Выказванні, якія дазваляў сабе апошнім часам Лукашэнка ў адносінах да людзей, выклікалі актыўны пратэст. Я чула на мітынгу ў Жодзіна, як простыя працоўныя скандзіравалі: «Мы — не авечкі!»

**Чацвёртая прычына** — поўная адарванасць уладаў ад народа. Як у свой час сфармулявала ў гутарцы са мною намесніца кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Наталля Пяткевіч: «У вас (меліся на ўвазе арганізацыі грамадзянскай супольнасці. — Т.П.) свае праблемы і задачы, у нас — свае». Пакуль улады за расійскія грошы вырашалі «свае» праблемы, людзі цярпелі. Але як гэтыя грошы паменшыліся (і ў будучым наогул могуць знікнуць), людзі задумаліся — ці трэба ім праблемы ўлады аплачваць са сваёй кішэні.

**Пятая прычына** — асоба Лукашэнкі. Ён абапіраўся на тых, хто ў большасці сваёй ніколі не быў за межамі Беларусі, не ведаў інтэрнэту, Viber, Skype, мабільнага тэлефона, не меў уласнага жытла, асабістага аўтамабіля. І нічога, акрамя савецкага, не бачыў. Для гэтых людзей «чарка і шкварка» і «каб не было вайны» былі дастатковымі для шчасця. Лукашэнка задавольваў гэтыя жаданні.

За 26 гадоў тых, хто ведаў савецкае жыццё, засталося ўжо няшмат. Разам з новымі людзьмі сталі і іншымі беларускія прыярытэты. Сёння гэта — падарожжы ў замежжа, дабрабыт на ўзроўні дасягненняў сучаснай цывілізацыі, добрая адукацыя, прыстойная старасць. Лукашэнка гэтага не зразумеў. Звяртаючыся да Другой сусветнай вайны як да галоўнай падзеі ў жыцці беларускага народа, ён не заўважыў, што адукаваная сучасная моладзь бачыць свет і яго гісторыю не праз савецкія ідэалагічныя акуляры. Яна хоча жыць не ў ізаляванай краіне, а ў краіне — частцы сусветнай супольнасці.

Ёсць яшчэ тры рэчы, якія сталі непрымальнымі для беларусаў у асобе Лукашэнкі. Першая — гэта публічная зняважа ім беларускай мовы, культуры, гісторыі. Другая — публічная зняважа жанчын, неразуменне іх ролі ў сучасным грамадстве. Трэцяя — зняважа беларускай маралі, асаблівая ў асабістым жыцці, непавага да людзей, нават тых, хто з'яўляўся аўтарытэтам для грамадства. Паплечнікі Лукашэнкі і нават ён сам не заўважылі, як лозунг «Лукашэнка не мой прэзідэнт» ператварыўся ў лозунг «Лукашэнка не наш прэзідэнт». На маёй вуліцы ў а/г Забалоцце ніхто публічна не сказаў у жніўні, што галасаваў за яго. 80% галасоў выбаршчыкаў, што напісалі яму ў ЦВК, ускалыхнулі краіну.

**Шостая прычына** — неадэкватныя і непамерна жорсткія дзеянні ўладаў, выкарыстаныя для падаўлення пратэстных настрояў.

Усе пералічаныя прычыны палітычнага крызісу ўзаемазвязаныя і ўзаемазалежныя. Як прынята казаць у такіх выпадках, яны павінны вырашацца «пакетам», то-бок усе разам.

Праўладныя агітатары, ідэолагі, асобы, якія займаюць адказныя пасады ў дзяржапараце, дзяржаўныя СМІ вызначаюць прычыны крызісу інакш. Неадназова і на розных узроўнях агучваецца думка пра існаванне замежнага цэнтру, які фінансуе, арганізоўвае і ажыццяўляе крызіс, каб пазбавіць Беларусь незалежнасці. Пра ўдзельнікаў пратэстаў кажуць, што яны нібыта паддаліся варожай прапагандзе, называюць рознымі ганебнымі мянушкамі. Маштабы пратэсту змяншаюцца, сілавыя структуры дзяржавы арыентуюцца на дзеянні, якія павінны запалохаць насельніцтва.

## Законныя і незаконныя шляхі

Для вырашэння сучаснага палітычнага крызісу ў Беларусі існуюць розныя шляхі. Іх можна падзяліць на законныя — згодна дзеючай Канстытуцыі, і незаконныя, якія Канстытуцыяй не прадугледжаныя ці якія ёй не адпавядаюць.

**Першы шлях** прапанаваў Лукашэнка: ён застаецца кіраўніком яшчэ не менш чым на год, пад яго кіраўніцтвам дапрацоўваюцца змены ў Канстытуцыю і потым адбываецца рэферэндум, які зацвердзіць Канстытуцыю, затым — новыя выбары згодна новай Канстытуцыі. Паколькі гэты шлях выказваўся неафіцыйна, няма ніякіх гарантый, што краіна па ім пойдзе.

**Другі шлях,** па якім цяпер рухаецца ўлада: Лукашэнка застаецца кіраваць яшчэ адзін тэрмін. Калі пратэсты суцішацца (улада на гэта разлічвае), ён «разбярэцца» з усімі апазіцыянерамі як у асяроддзі грамадзянскай супольнасці, так і дзяржаўных структурах і прадпрыемствах. У гэтым выпадку краіну чакаюць «чысткі» як у 1930-х гадах, масавы сыход моладзі за мяжу.

Трэці, чацвёрты і пяты шляхі базуюцца на палажэннях Канстытуцыі.

**Трэці шлях.** Лукашэнка можа сам адмовіцца ад пасады — падаць у адстаўку ў любы час (артыкул 87). Адстаўку павінен прыняць парламент. У Канстытуцыі не вызначана, якой колькасцю галасоў парламентарыяў прымаецца адстаўка, таму можна думаць пра простую большасць. Пасля адстаўкі паўнамоцтвы прэзідэнта пачынае выконваць прэм'ер-міністр, які не пазней як праз 70 дзён прызначае дату новых выбараў. Менавіта гэтага развіцця падзей пакуль патрабуюць пратэстоўцы.

**Чацвёрты шлях.** Лукашэнка можа быць датэрмінова вызвалены ад пасады пры стойкай няздольнасці па стане здароўя ажыццяўляць абавязкі прэзідэнта. Рашэнне аб датэрміновым вызваленні прэзідэнта прымаецца большасцю не менш як дзве траціны галасоў ад поўнага складу Палаты прадстаўнікоў і большасцю не менш як дзве траціны галасоў ад поўнага складу Савета Рэспублікі на падставе заключэння спецыяльна створанай палатамі камісіі (арт. 88, ч.1).

**Пяты шлях.** Лукашэнка можа быць зняты з пасады ў сувязі з учыненнем дзяржаўнай здрады або іншага цяжкага злачынства. Рашэнне аб выстаўленні абвінавачання і яго расследавання ў гэтым выпадку лічыцца прынятым, калі за яго прагаласавала большасць ад поўнага складу Палаты прадстаўнікоў па прапанове не менш як адной траціны яе дэпутатаў. Расследаванне арганізуецца Саветам Рэспублікі. Прэзідэнт лічыцца знятым з пасады, калі за гэта рашэнне прагаласавала не менш як дзве траціны ад поўнага складу Савета Рэспублікі, а таксама не менш як дзве траціны ад поўнага складу Палаты прадстаўнікоў (арт. 88, ч. 2).

І пасля адхілення, і пасля зняцця паўнамоцтвы прэзідэнта пераходзяць да прэм'ер-міністра, які іх выконвае да прыняцця прысягі новым прэзідэнтам.

У Канстытуцыі Беларусі ёсць яшчэ адна цікавая акалічнасць. Прэзідэнт заступае на пасаду пасля прынясення прысягі. Прысяга прыносіцца ва ўрачыстай абстаноўцы ў прысутнасці дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і чальцоў Савета Рэспублікі, суддзяў Канстытуцыйнага, Вярхоўнага і Вышэйшага Гаспадарчага судоў не пазней двух месяцаў з дня абрання прэзідэнта. Канстытуцыя не вызначае, колькі павінна прысутнічаць на прыняцці прысягі чальцоў названых вышэй структур. Але існуе тэарэтычная магчымасць байкатаваць прыняцце прысягі шляхам адсутнасці на ёй прадстаўнікоў органаў, якія прысутнічаюць на прысязе.

***

У Канстытуцыі Беларусі ў рэдакцыі 1994 года існавала магчымасць імпічменту прэзідэнта — калі ён парушыў Канстытуцыю. Вырашаў гэта Канстытуцыйны суд. 19 лістапада 1996 года ў Канстытуцыйны суд звярнулася група дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў колькасці 73 чалавек (патрабавалася 70 подпісаў) з прапановай даць заключэнне аб парушэнні Лукашэнкам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Суд спачатку прыняў заяву да разгляду. Але потым дэпутаты пачалі свае подпісы адклікаць. У перыяд з 19 па 26 лістапада 1996 года ў суд звярнуліся 12 дэпутатаў, і подпісаў стала не хапаць. Канстытуцыйны суд на гэтай падставе не стаў разглядаць пытанне. Суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў не пагадзіўся з гэтым рашэннем і напісаў асабістае бачанне праблемы. Асабістае бачанне дадалі да пратакола пасяджэння суда, але імпічмент так і не адбыўся.

Старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня сказаў мне пазней: «Мне сказалі, што будзе кроў, грамадзянская вайна. Я не мог узяць на сябе такую адказнасць. Так было лепей тады». Сёння аргументы пра кроў і грамадзянскую вайну зноў гучаць...

**Старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня сказаў мне пазней: «Мне сказалі, што будзе кроў, грамадзянская вайна. Я не мог узяць на сябе такую адказнасць. Так было лепей тады». Сёння аргументы пра кроў і грамадзянскую вайну зноў гучаць...**

# Забастоўку не бачыш? А яна ёсць!

Сяргей ПУЛЬША

**Беларускія працоўныя выканалі надзвычай важную місію. Варта ім было прыгразіць страйкамі, як на вуліцах краіны адразу спыніўся гвалт. Канешне, і цяпер працуе рэпрэсіўная машына — затрыманні пратэстоўцаў працягваюцца, але іх хаця б не катуюць у пастарунках і месцах зняволення. Але гэта — яшчэ не ўсё.**




Працоўныя Беларусі маюць выразныя патрабаванні да беларускіх уладаў. У асноўным іх чатыры (у розных варыяцыях). Гэта: спыніць рэпрэсіі і выпусціць палітычных зняволеных; аднавіць працу інтэрнэту ў краіне; расследаваць усе выбарчыя парушэнні і выпадкі катаванняў; правесці новыя, свабодныя і сумленныя выбары.

Па вялікім рахунку, ніводнае з гэтых патрабаванняў да канца не выкананае. Палітвязні застаюцца за кратамі, улады па-ранейшаму блакуюць недзяржаўныя інтэрнэт-рэсурсы, Следчы камітэт не завёў ніводнай крымінальнай справы па выпадках катаванняў, а пра свабодныя і сумленныя выбары і гаворка не ідзе.

Але ў многіх узнікае ўражанне, што працоўны пратэст сцішыўся. Прынамсі, мы ўжо амаль не чуем пра «агульнанацыянальны страйк». Канешне, некаторыя прадпрыемствы і ўстановы працягваюць уяўнае змаганне. Але гіганты кшталту МАЗу і МТЗ, БМЗ і «Белшыны», "Гродна Азоту" і БелАЗу, падаецца, запрацавалі. Ці так гэта?

## «Страйкавы суслік» для ўладаў

«Сусліка бачыш? — Не. — А ён ёсць!» — казалі ў серыяле «ДМБ». Дакладна тое ж кажуць цяпер пра «агульнанацыянальны страйк». Мы не бачым, што адбываецца за варотамі прадпрыемстваў. Але, па словах лідара Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандра Ярашука (менавіта гэтая структура ў звязцы з іншымі незалежнымі прафсаюзамі займаецца дапамогай страйкамам), там адбываецца шмат чаго цікавага.

«Трэба сказаць, што складана арганізаваць агульнанацыянальны страйк. І не было гатоўнасці да гэтага рабочых, і працэдура да канца не была вядомая. І, канешне, было і ёсць надзвычай моцнае супрацьдзеянне рэжыму. Вы ведаеце, колькі цяпер рэпрэсій супраць рабочых: разнастайныя запалохванні і судовыя расправы, шэраг працоўных атрымалі прысуды і адбываюць адміністрацыйныя арышты, пакараныя велізарнымі штрафамі. Я не буду пра гэта казаць, і так усё зразумела. У сілу гэтых прычын і няма тых "класічных забастовак", таго, што мы зазвычай разумеем пад паняццем "забастоўка"», — кажа Ярашук.

Але, як адзначае прафсаюзны лідар, пратэставы патэнцыял рабочых пры гэтым нікуды не падзеўся. «Рабочыя не дэмаралізаваныя, усё проста трансфармавалася ў іншыя формы барацьбы, якія, напэўна, больш бяспечныя для страйкоўцаў і, верагодна, больш адпавядаюць менталітэту беларусаў. Гэта "італьянскія забастоўкі", калі ўсё робіцца вельмі марудна, сабатаж у розных формах, ігнараванне ўказанняў, "праца па тэхрэгламенце", калі найменшае невыкананне правілаў выклікае спыненне працы... На самай справе, гэтыя формы страйкаў атрымалі досыць шырокі распаўсюд», — распавядае старшыня БКДП.

Па словах Ярашука, гэтыя формы страйкаў амаль такія ж стыхійныя, як і ўвесь сённяшні беларускі супраціў. «Людзі ў арганізацыях і ўстановах самастойна прыходзілі да высновы, што ім трэба займацца менавіта гэтым, але пры гэтым цалкам будучы перакананымі, што без наступстваў нельга пакідаць масавыя фальсіфікацыі і крывавы тэрор. Людзі поўныя рашучасці гэтыя формы партызанскай барацьбы з рэжымам ажыццяўляць. Гэта, я лічу, удалыя тактыка і стратэгія, і думаю, што яны будуць прыносіць свае вынікі», — адзначае ён.

## Самаарганізацыя — добра, але...

Аднак як падобныя «італьянскія забастоўкі», так і дзеянні ўладаў па падаўленні пратэстаў па працоўных месцах прыводзяць да адной істотнай праблемы. І гэтая праблема — бачная адсутнасць персаналій для перамоваў.

Зусім нядаўна з такой жа праблемай сутыкнуўся ўвесь беларускі пратэставы рух. Так, «вуліца» выдатна абыходзіцца без уяўных лідараў, самаарганізаваныя акцыі праходзяць маланкава і крэатыўна, людзі проста выходзяць на вуліцы і дапамагаюць адзін аднаму. Народ патрабуе мірнай перадачы ўлады і правядзення новых, сумленных і свабодных выбараў. Але чыноўнікам, якія, можа, і хацелі б правесці якія-небудзь «закулісныя перамовы» ды перайсці «на светлы бок сілы», няма з кім размаўляць! Святлану Ціханоўскую, Вераніку і Валерыя Цапкала ўлада прымусіла пакінуць краіну, Віктар Бабарыка і яго сын Эдуард, роўна як і Мікалай Статкевіч, і Павел Севярынец, і Сяргей Ціханоўскі — за кратамі. Улада аказалася ў сітуацыі самоты — калі, можа, і варта было б пачынаць перамовы аб стабілізацыі сітуацыі ў краіне, але ладзіць іх няма з кім, бо ўсе, з кім можна было б пра гэта размаўляць, гэтай жа ўладай рэпрэсаваныя.

Каардынацыйная рада па трансферы ўлады, якая была створаная нядаўна, пакуль, шчыра кажучы, не мае такога аўтарытэту, каб з ёю нехта размаўляў.

«Яма лідарства» — гэта праблема і працоўнага страйкавага руху. Прычым, праблема больш сур'ёзная. Як справядліва адзначыў Ярашук, «Лукашэнка сыдзе — і сыдзе, хутчэй, рана, чым позна». А калі ён сыдзе, з кім дырэктар прадпрыемства, які раней разграміў страйкамы і звольніў іх удзельнікаў, будзе дамаўляцца аб спыненні «італьянскай забастоўкі»?

Таму, па словах лідара БКДП, самаарганізацыя працоўных — найважнейшая задача не толькі на сёння, але і на будучыню. «Толькі арганізаваны працоўны рух можа ператварыцца ў інструмент, які прымусіць уладу з сабою лічыцца і забяспечыць транзіт улады. Таму што менавіта транзіт улады — і гэта відавочна, — з'яўляецца асноўным патрабаваннем і мэтай рабочых, якія ўваходзяць у рэжым акцый супраціву. Асноўныя ўмовы рабочых: яны — пункт першы — не прызнаюць Лукашэнку прэзідэнтам, і — пункт другі — альбо прызнаюць прэзідэнтам Ціханоўскую, альбо настойваюць на новых прэзідэнцкіх выбарах», — лічыць Ярашук.

У той жа час ён зазначае, што працоўных трывожыць іх будучыня. «Рабочыя бачаць, што ўся эканамічная палітыка дзяржавы ў дачыненні да буйных прадпрыемстваў зайшла ў тупік. І калі гаворка ідзе пра заўтрашні дзень, яны выдатна разумеюць неабходнасць эканамічных рэформаў», — кажа прафсаюзны лідар. Але ў той жа час ім не хочацца, каб гэтыя рэформы прывялі да банкруцтва прадпрыемстваў і страты іх працоўных месцаў.

## Страйкамы супраць прапаганды

Рэформы, у выніку якіх працоўныя страцяць свае месцы, — гэта асноўны прапагандысцкі прыём, якім карыстаюцца ўлады, каб спыніць страйкі на прадпрыемствах. Да гэтага падключыўся нават віцэ-прэм'ер Снапкоў, які заявіў, што забастоўкі аслабляюць эканоміку дзяржавы, а ў выніку «прыйдуць капіталісты і ўсё павыкупляюць за капейкі».

Каб гэтага не здарылася, якраз і патрэбны і арганізаваны працоўны рух, і эфектыўныя страйкамы, якія не дадуць «скупіць заводы за капейкі».

І прафсаюзы, насамрэч, гэта выдатна разумеюць. Як зазначыў Ярашук, гаворка сёння ідзе не проста пра ўдзел рабочых у страйку. «Трэба рыхтавацца да таго, што будзе пасля Лукашэнкі, які, вядома ж, сыдзе, і хутчэй раней, чым пазней. Жыццё ні на Зямлі, ні ў Рэспубліцы Беларусь пасля яго не спыніцца. Трэба думаць пра заўтрашні дзень і да яго рыхтавацца», — лічыць кіраўнік БКДП.

## Чым дапамагчы?

Рабочаму руху, безумоўна, патрэбная падтрымка. Працоўныя таксама павінны адчуваць салідарнасць — не толькі ў межах заводу, але і па-за ім. Канешне, цяпер створаны і фонд дапамогі пацярпелым у выніку ўдзелу ў страйку, і людзі выходзяць да прадпрыемстваў з плакатамі: «Чалавек года — працоўны завода!». Але грамадства павінна салідарызавацца з працоўнымі не толькі вонкава, але і ўнутрана.

Забастоўка — гэта эфектыўны сродак ціску на ўладу. Але ў той жа час, па словах Ярашука, «вельмі неадназначнае рашэнне». І не толькі таму, што могуць пацярпець страйкоўцы — у выніку гэтага кроку пакутуюць канкрэтныя людзі. Пакуль спынялі працу заводы. А калі да «ўсеагульнага страйку» далучацца транспартнікі? Медыкі? Грузаперавозчыкі? Гэта адаб'ецца на кожным канкрэтным чалавеку — калі людзі не змогуць даехаць на працу, калі тавары не будуць дастаўляцца ў крамы. Грамадства гэта павінна не толькі зразумець, але і прыняць.

«Неабходна такое разуменне грамадства, якое мы бачым на прыкладах іншых краін, што шмат гадоў жывуць ва ўмовах рэальнай дэмакратыі. Калі ў Францыі ці Германіі страйкавалі чыгуначнікі, гэтыя краіны ахапіў транспартны калапс. І там ад людзей мы чулі адзін адказ: "Вядома, у нас узніклі вялікія нязручнасці, але працоўныя маюць права адстойваць свае інтарэсы". Трэба, каб і наша грамадства выяўляла такое ж разуменне і такую ж салідарнасць у дачыненні да працоўных, што рашаюцца на вельмі неадназначныя формы барацьбы за правы ўсяго беларускага народа, за аднаўленне законнасці ў краіне», — падкрэслівае Ярашук.

## Няма ў рэвалюцыі канца?

Адзін з чальцоў страйкаму МТЗ Сяргей Дылеўскі ў інтэрв'ю «Настоящему Времени» казаў, што тое, што адбылося на заводзе, — толькі «чарнавік» пратэстаў. А другая хваля страйкаў будзе сапраўдная.

Пакуль усё выглядае на заціўша, але падштурхне да страйкаў проста эканамічная сітуацыя. Міжнародныя фінансавыя арганізацыі прагназуюць дэфіцыт беларускага бюджэту ў 5,6 мільярда рублёў. Гэтая лічба не выклікае перасцярогі толькі да таго часу, пакуль не ўзгадаеш, што ўвесь беларускі бюджэт — 21 мільярд рублёў, то-бок, у ім не хапае чвэрці (!) грошай. І ў першую чаргу, канешне, знікне бюджэтная падтрымка стратных прадпрыемстваў.

Экспарт тавараў за першае паўгоддзе скараціўся амаль на 20%, прычым нашая «чароўная палачка» — нафтаперапрацоўка, — страціла аж 25% (нягледзячы на танную сыравіну). ВУП краіны знізіўся на 1,7% пры планах яго прыросту на 1,6%. Усе мы ўжо адчулі недахоп валюты ў абменніках.

У гэтым годзе Беларусь павінна выплаціць знешнім крэдыторам 3,9 мільярда долараў, дзве траціны гэтых выплат прыпадаюць на Расію. Пуцін, канешне, пагадзіўся «рэфінансаваць» 1 мільярд долараў, аднак пасля «рэйдарскага захопу» расійскага «Белгазпрамбанку» наўрад ці можна разлічваць на нешта большае. Захад у сувязі з нашымі выбарамі спыняе нават тэхнічную дапамогу, не кажучы ўжо пра крэдыты.

Да таго ж, нам зноў трэба дамаўляцца пра кошт нафты і газа, што ў сувязі з тым жа «Белгазпрамбанкам» будзе вельмі праблематычна.

Карацей, нас чакае эканамічны крызіс з нелегітымнай уладай на чале дзяржавы. Сумесь гэтых двух фактараў — проста дынаміт. Другая хваля актыўных страйкаў амаль непазбежная. Пытанне толькі адно: «Калі?»

# У рабочага «Нафтану» падчас пратэстаў трапілі дзве гранаты

**10 жніўня пад ногі 29-гадовага аператара ААТ «Нафтан» Вячаслава Сліжыкава сілавікі кінулі дзве святлашумавыя гранаты. У Наваполацкім шпіталі яго паклалі ў аддзяленне траўматалогіі, дзе ён знаходзіўся да 21 жніўня.**

Паводле эпікрызу, Вячаслаў мае агнястрэльныя раны абедзвюх ног, грудной клеткі, левага пляча, правага лакцявога сустава; траўматычнае пашкоджанне малагалёначнага нерва справа з паралічом разгінальнікаў правай ступні.

«Я выпісаўся з лякарні, на працу пакуль не хаджу. У мяне пашкоджаны нерв на назе, ён яшчэ доўга будзе аднаўляцца, і невядома, ці наогул адновіцца. Бо ступня ў мяне не падымаецца ўгору. Лекары мяркуюць, што нерв проста кантужаны, але ці ён аджыве, не ведаю, — кажа Вячаслаў. — Хадзіў на мыліцах, але потым іх кінуў і, каб не стаць інвалідам, праз боль спрабую ступаць на нагу. Але, калі падымаю правую нагу, ступня проста цягнецца за мной».

Прафсаюз «Нафтану» Вячаславу выдзеліў усяго 150 рублёў на лячэнне. Пакуль звальняць яго не збіраюцца, прапанавалі выбраць для адпачынку санаторый. Цяпер Вячаславу дапамагае фонд «Імёны». Ён таксама звярнуўся па фінансавую дапамогу.

### «Заглушыла ўвушшу, была невялікая кантузія»

Вячаслаў разам са сваёй дзяўчынай увечары 10 жніўня выйшаў у горад прагуляцца, бо не было інтэрнэту. Ён жыве ля скрыжавання на вуліцы Калініна, дзе сабраліся людзі, пляскалі ў далоні, скандавалі: «Жыве Беларусь!» Супрацоўнікі міліцыі не прапусцілі яго ў бок цэнтральнай плошчы, і Вячаслаў вярнуўся да дэманстрантаў.

«Было даволі цёпла, я быў у шортах, майцы, красоўках. Я аказаўся на адным з бакоў скрыжавання, там было чалавек 50. Там была і моладзь, і сталыя людзі, і дзеці, яны пляскалі ў далоні. Ніякіх супрацьпраўных дзеянняў з іх боку не было. Тут жа стаялі дзве машыны супрацоўнікаў ДПС, людзі фатаграфаваліся з імі, гэта быў мірны пратэст», — кажа Вячаслаў.

Ён убачыў, як шэраг сілавікоў у шаломах і са шчытамі пачаў рухацца на дэманстрантаў. Яны былі ўжо прыкладна за 20 метраў — і без ніякага папярэджання пачалі кідаць у людзей святлашумавыя гранаты.

«Мне пад ногі прыляцелі дзве гранаты. Спачатку я адчуў удар у нагу, падумаў, што мо кідаюць які газ ці што. Людзі пачалі крычаць, што кідаюць гранаты. Я пачаў адварочвацца і адчуў удар у нагу. Паспрабаваў на яе стаць, зразумеў, што нешта з маёй нагой не тое. Заглушыла ўвушшу, была невялікая кантузія. Я паспрабаваў на дзвюх нагах адступаць назад. Потым яшчэ нешта ўзарвалася пада мной. Я стаў на адну нагу, пераскочыў на другую частку скрыжавання і зваліўся ў траву. Хлопцы падабралі мяне з травы, аднеслі ў пад'езд, выклікалі "хуткую", перабінтавалі, і я аказаўся ў лякарні», — кажа Вячаслаў.

Лекары налічылі каля сарака пашкоджанняў на целе Вячаслава ад аскепкаў гранат.

«У лякарні сказалі, што гэта брудныя, ірваныя раны. Іх пачысцілі, прамылі. Я сказаў, што мяне закідалі гранатамі, а яны напісалі ў эпікрызе, што "траўмы атрымаў падчас сутыкненняў з супрацоўнікамі міліцыі". Я пасмяяўся, не ведаў, адкуль вецер дзьме».

### «Ніякіх беспарадкаў не было»

У лякарні да Вячаслава прыйшоў следчы, апытаў яго наконт атрыманых ранаў. На наступны дзень следчы апытаў яго ўжо як сведку ў справе беспарадкаў у горадзе.

«Я патлумачыў, што ніякіх беспарадкаў не было, і людзі нічога не рабілі, апроч пляскання ў далоні і скандавання: "Жыве Беларусь!". Гэта відаць на відэа, якое людзі знялі з балкона. У нас у горадзе ніводнай разбітай вітрыны, ніводнай разбітай шыбы», — кажа Вячаслаў.

У гэты ж дзень увечары следчы Юрый Алексіёнак забраў у Вячаслава тэлефон, які дагэтуль не вярнулі.

«Я тэлефона не аддаваў, але ён прыгразіў, што выкліча нарад і мяне з лякарні на трое сутак забяруць у пастарунак. Калі я спытаў, а навошта вам тэлефон, ён сказаў, што яны хочуць высветліць, ці не быў я завадатарам забурэнняў 10 жніўня», — кажа Вячаслаў.

Яшчэ перад выпіскай з лякарні на Вячаслава завялі адміністрацыйную справу за ўдзел у мітынгу.

«Я напісаў у пратаколе, што я не згодны і ні ў чым не браў удзелу. Бацькам тэлефанаваў следчы, хацеў пагутарыць, відаць, пра мае палітычныя погляды. Але маці яму сказала, маўляў, скаты, што вы творыце».

### «Я адкрыта супраць гэтага тырана»

Пераадольваючы боль, Вячаслаў пасля лякарні ходзіць на акцыі пратэсту.

«Я хадзіў учора на мітынг; цягаю нагу за сабой, але праз боль іду. Нага баліць па начах. Я буду хадзіць на мітынгі да перамогі, бо я супраць тыраніі, я супраць таго, каб парушалася Канстытуцыя, правы чалавека. Я супраць таго, каб пакутаваў наш народ, якім я ганаруся. І за праўду буду змагацца, — кажа Вячаслаў. — Я звычайны рабацяга. Пакуль усяго гэтага не здарылася, я нават ні разу не хадзіў на выбары. Бо ведаў, што выбары будуць круціцца ў адзін бок. Лічыў, што прыйдзе адзін ці другі — нічога не памяняецца. Але пасля таго, што я ўбачыў і перажыў, гэта страшна, я адкрыта супраць гэтага тырана і зусім стаў апазіцыянерам».

Вячаслаў кажа, што бацька, які таксама працуе на «Нафтане», яго падтрымлівае. Але ён не верыць, што на прадпрыемстве пачнуць страйкаваць.

«Ні ў каго няма нейкіх адкладзеных грошай, каб ісці страйкаваць. Усе баяцца за сем'і. Людзі настроеныя сур'ёзна, пазітыўна, але многія баяцца. Нафтанаўцы, паліміраўцы баяцца свае працоўныя месцы страціць. На абедах "падстрайкоўваюць", — кажа Вячаслаў. — Заробкі на "Нафтане" параўнальна з іншымі ў краіне даволі добрыя, шмат работнікаў передпенсійнага ўзросту, ім выдаюць "грабавыя", і яны трасуцца за гэтыя аклады. Моладзь, я думаю, падымецца, але зноў жа няшмат, бо многа страху. Я не веру ў страйк на "Нафтане"».

**Радыё Свабода**

Алена ЛЯШКЕВІЧ

# «Хочаш у космас?» Мінскі рабочы пра катаванні ў пастарунку

**Рабочы Аляксандр Ласіца трапіў у лякарню пасля пастарунка: рука параненая гумовай куляй, нага — аскепкам шкла. На Акрэсціна яму не рабілі перавязкі, рука пачала гнаіцца — каб не лякарня, мог бы застацца без рукі.**

Аляксандру 36 гадоў. Ён працуе на дзяржаўным прадпрыемстве «Белсельэлектрасеткабуд» у Мінску. Арганізацыя займаецца пракладкай кабеляў. Вытворчая база і інтэрнат знаходзяцца недалёка ад метро «Пушкінская», дзе адбыліся жорсткія сутычкі пратэстоўцаў з сілавікамі і загінуў Аляксандр Тарайкоўскі. Пачуўшы ўвечары 10 жніўня сігналы машын і выгукі, Аляксандр Ласіца з калегамі выйшлі паглядзець, што адбываецца. Яны доўга стаялі на вуліцы.

На «Пушкінскай» мужчына пабачыў кардон АМАПу, які перакрыў дарогу, а таксама аўтобусы і вайсковую тэхніку. АМАП пачаў рухацца на народ.

Аляксандр адышоў з праезджай часткі і схаваўся за апору. Пабачыў дзвюх дзяўчат, якія сфатаграфаваліся са сцягам з Пагоняй. Аляксандр выйшаў зноў на дарогу, падышоў да дзяўчат, спадзеючыся ўгаварыць іх адысці і не паддавацца на правакацыі. Мужчына падняў рукі, каб паказаць АМАПу, што ён без зброі.



Тады паляцелі святлашумавыя гранаты. Аляксандр быў аглушаны і дасюль не чуе на адно вуха. У яго анямела рука — аказалася, што трапіла гумовая куля. Ён пайшоў у бок прыпынку, народ яго адцягнуў з праезджай часткі, валанцёр з валізай медыкаментаў аказаў першую дапамогу, выняў кулю. Выклікалі хуткую. Аказалася, што ў назе мужчыны — аскепак шкла.

На наступны дзень, 11 жніўня, Аляксандр адкрыў бальнічны і каля 18 гадзін выправіўся ў аптэку па прапісаныя лекі. На метро «Пушкінская» пабачыў АМАП у поўнай экіпіроўцы і вырашыў пацікавіцца, ці бяспечна спускацца ў падземны пераход: «Павітаўся, паспеў толькі сказаць "Прабачце" і быў схоплены. Пачуў фразу: "Гэта наш кліент!" Я не супраціўляўся. Мяне прынеслі да аўтазака і закінулі на тых, хто сядзелі на падлозе. Пакуль аўтазак ехаў у РУУС, двум чалавекам стала блага, іх «выгружалі». Толькі куды — я не ведаю. Аднаму стала кепска з сэрцам ад спёкі, ён заторгаўся, нешта кшталту эпілепсіі, не кантраляваў сябе. Яго проста за рукі, за ногі — і пацягнулі амапаўцы па нас, хто ляжалі. Выцягнулі з аўтазака, пакінулі, ці што. Прывезлі ў Цэнтральны РУУС, прымусілі легчы на асфальт тварам уніз і гадзіны 3–4 ляжаць. З некаторых здымалі адзенне, аблівалі вадой і людзей, і адзенне, якое ляжала кучай. Потым спыталі, каму холадна, можаце надзець сваё адзенне.

Чуў моцныя ўдары, кагосьці білі. Да мяне падышоў супрацоўнік АМАПу, спытаў:

— Хочаш пабачыць зоркі?

— Не.

— А ў космас злётаць?

— Не, не хачу.

Ён ударыў мяне палкай па галаве.

Пасля Аляксандра ўдарылі па нырцы. Ён скруціўся ад болю і атрымаў нагой пад дых. Затрыманыя праляжалі на жываце, пакуль на досвітку іх не сталі выклікаць у РУУС падпісваць пратаколы. «Мне напісалі, што рухаўся па праспекце Пушкіна з натоўпам народу і скандаваў: «Жыве Беларусь!» і «Гандзьба́!» (рэд.: «Га́ньба», але Аляксандр нават не ведае слова, якое ніbыта скандаваў, як запісана ў пратаколе). Мужчына спрабаваў давесці, што не згодны з пратаколам, але яго не сталі слухаць.

Аляксандр чуў, як хлопец крычаў, што яму 14 гадоў, але ў яго знайшлі малаток і ліхтарык, білі вельмі моцна.

Людзі стаялі ў некалькі шэрагаў: «Іх прывозілі і прывозілі... Наш аўтазак, яшчэ два... У Цэнтральным РУУС білі яшчэ больш-менш лаяльна. На Акрэсціна, калі вылазілі з аўтазака, нас прагналі праз калідор сілавікоў з дручкамі, праз які трэба было бегчы. Пакуль прабягаеш гэты калідор — па табе прылятае некалькі ўдараў. Некаторыя гублялі абутак. Хто падаў — тых білі нагамі і дручкамі. Прыбягалі ў дворык — і там яшчэ атрымлівалі. Прыкладна з гадзіны дня 12 жніўня да 8–9 ранку 13 жніўня мы правялі на дворыку Акрэсціна. Нас было каля 50 чалавек, некаторыя напаўраспранутыя. Спалі проста на бетоне, падклаўшы пустую бутэльку пад галаву. Астатнія дамовіліся сесці шчыльна: адзін сядае да сцяны, рассоўвае ногі, наступны ўпіраецца яму спінай на грудзі. Я так сеў, адчуўшы з усіх бакоў цяпло, — і вырубіўся імгненна».

Толькі 13 жніўня, праз паўтара дні пасля затрымання і дзве ночы без нармальнага сну, Аляксандра завялі ў камеру. Удзень частку сукамернікаў вывезлі ў Жодзіна. Аляксандра зноў вывелі ў двор. Амапаўцы паводзілі сябе заўважна мякчэй. «Там было нейкае начальства. А шараговыя супрацоўнікі — хто ў міліцэйскай форме, хто ў чорнай амапаўскай, хто ў форме супрацоўнікаў СІЗА. Яшчэ былі людзі ў форме без апазнавальных знакаў, толькі нейкі трохкутнік вуглом уніз і нумарацыя ў ім. Было шмат народу, але з арыштаваных ужо так не здзекаваліся: не прымушалі бегаць, апусціўшы галаву, выспятку не давалі, дручкамі не білі. Што мяне ўразіла, у іх на Акрэсціна нейкая такая несабранасць: кагосьці завозілі саджалі, кагосьці адпускалі ў лякарню. І вось яны ходзяць потым па камерах і шукаюць чалавека. Яго фармальна прывезлі, а фактычна ён там адсутнічае і куды падзеўся — ніхто не ведае».

Увесь гэты час Аляксандру не рабілі неабходных перавязак, не давалі лекаў. Рана на руцэ пачала гнаіцца. «У мяне дзірка ў цягліцы. Яе трэба штодня апрацоўваць і мяняць тампон, які там знаходзіцца. Мог бы руку згубіць, — кажа мужчына. — Добра, прыехалі медыкі аглядаць зняволеных, і мяне адправілі ў лякарню. Аднаго хлопца пры мне забіралі медыкі — ён хадзіць не мог. У яго вушы былі распухлыя і фіялетавыя. Твар разбіты, рукі, ногі фіялетавыя. Супрацоўнік Акрэсціна сказаў лекару: «А, гэта ён ад нас чатыры разы збягаў, чатыры разы падаў на дошкі».

# Лужыны крыві ў калідоры ГАУС, дарожка

Таццяна ГУСЕВА

**Усё гэта медык Таццяна бачыла ўвечары 10 жніўня ў Пінску. І расказала пра гэта «Салідарнасці».**

42-гадовая жанчына лічыць, што адплата за гвалт напаткае тых, хто здзейсніў зло. Але пасля затрымання яна так і не наважылася напісаць заяву ў праваахоўныя органы.

— Я баялася, што на мяне павесяць крымінальную адказнасць — абвінавацяць у тым, што біла міліцыянта, — кажа Таццяна, якая пры росце 158 сантыметраў важыць 50 кілаграмаў.

Вечарам 10 жніўня Таццяна вярталася з працы.

— У 19.26 я сышла, а ў 19.35 мяне ўжо запакавалі... На вуліцы Леніна гулялі мамы з дзеткамі, пары, пажылыя людзі. Бачу: стаяць людзі ў чорнай форме, з жалезнымі шчытамі, з дручкамі. Яны пачалі ісці на народ.

На маіх вачах чалавек у форме аддае загад: затрымаць мужчыну з роварам. На яго накінуліся пяцёра і пачалі яго біць, не папярэджваючы і нічога не кажучы.

Таццяна ўключыла відэазапіс на тэлефоне, каб зняць, як б'юць чалавека.

— Мяне заўважыў супрацоўнік у чорным, падскочыў да мяне: «Выкінь тэлефон!» Кажу, дарагі тэлефон, не буду. Двое паклалі мяне на асфальт, я стукнулася галавой.

Усё было хутка. Я крычала: «Дапамажыце!» Мяне пацягнулі. Заламалі рукі. Пытаюся: «Навошта вы так?» Адказваюць: «Няма чаго было тут хадзіць».

Кажу, што ў мяне кружыцца галава, страчваю прытомнасць. Адказваюць: «Трэба было сядзець дома, было б добра».

Мужчыну з роварам цягнулі, ён быў басанож. Яго моцна збілі. Можа, да гэтага часу ў бальніцы.

Па словах Таццяны, яе перадалі іншым супрацоўнікам, якія забралі ў яе тэлефон.

— Чалавек у чорным абзываў мяне «к...рва».

Жанчыну прывялі ў Пінскі гарвыканкам праз чорны ход:

— На лесвіцы я ўбачыла дарожку крыві. Пасадзілі, сказалі галаву не падымаць, нікуды не глядзець. У памяшканні сядзелі мужчыны — ім на галовы нацягнулі майкі. Адзін стагнаў: «Выклічце "хуткую", мне дрэнна».

У другога (яго завуць Алег) ніжнюю частку рукі вырвалі з локцевага сустава. Ён таксама стагнаў і трымаўся за руку.

Праз 10 хвілін затрыманых вывелі на вуліцу, змясцілі ў «стакан» у мікрааўтобусе і адвезлі ў ГАУС. Асабісты дагляд праводзілі ў калідоры, успамінае Таццяна. Патэлефанаваць родным не дазволілі.

Дзяўчына-міліцыянт адвяла яе ў памяшканне ціра, сказала легчы на падлогу.



**Затрыманая ў Пінску медык папрасіла схаваць яе твар і не паказваць прозвішча і месца працы. Мама Таццяны не ведае пра затрыманне дачкі.**
Фота прадастаўлена гераіняй матэрыялу

— Там ляжала чалавек 20 тварам у падлогу, са завязанымі будаўнічымі сцяжкамі рукамі. Іх ахоўвалі людзі ў ваеннай форме з аўтаматамі.

Калі супрацоўніца ГАУС сышла, вайсковец сказаў мне падымацца, паказаў месца, дзе сесці. Там сядзела 17-гадовая дзяўчынка, яна прыехала з Гродна. Завуць яе Улада. У яе з сабой была прафесійная камера і тэлефон.

Паміж сабой міліцыянты казалі, што блогерку злавілі. У дзяўчынкі балела нага, але яна не скардзілася.

# «Я памятаю твары ўсіх

**У рэдакцыю «Новага Часу» трапіў расповед дзяўчыны-назіральніцы. Марыя пазбегла затрымання на сваім участку, але пасля «хапуна» ўвечары 9 жніўня ў цэнтры Мінска аказалася на Акрэсціна.**



**Акрэсціна. У чаканні вызваленняў.**
Фота Арцёма Лявы

Публікуем гісторыю Марыі цалкам з невялікімі рэдактарскімі праўкамі.

«Я была назіральніцай на 27-м участку на Каменнай Горцы ў школе №56. У дзень выбараў, 9 жніўня, а 18-й гадзіне прыйшло паведамленне ад каардынатараў, што за намі, магчыма, зараз прыедзе АМАП — ім трэба зачысціць сведкаў. Праз 15–20 хвілін прыехаў белы бусік на чырвоных нумарах. З яго ніхто не выйшаў. Але мы зразумелі, што гэта ўжо небяспечна. Не было магчымасці звязацца з суседнімі ўчасткамі — вы ведаеце, што было з інтэрнэтам. Таму мы пайшлі са школы. Выпадкова каля крамы ў 100 метрах пабачылі грузавы бус, а побач з ім 4–5 байцоў у чорным адзенні і берцах. Так мы зразумелі, што пратакол чакаць не будзем.

А 20-й я пайшла на свой участак на Пушкінскай, дзе галасавала. Нас сабралася чалавек 60–70. Каля нас стаяў таварыш маёр і бясконца камусьці тэлефанаваў. Чакаў, мабыць, на аўтазак, але яны ж усе былі занятыя. Мытакі дачакаліся пратакола праз паўтары гадзіны. Наша старшыня камісіі спужалася такой колькасці людзей. Збягалі яны праз чорны выхад. Але мы там іх усё роўна сустрэлі і падзякавалі за «плённую працу» апладысментамі.

Пасля гэтага наш натоўп рушыў у бок Фрунзенскай тэрытарыяльнай камісіі. Па дарозе сустракалі яшчэ людзей, нехта далучаўся. Каля камісіі было ціха і няма дзе стаць — шмат міліцыі. Не хацелі, але рушылі ў бок стэлы. Каля «Кароны» на «Маладзёжнай» людзі ў асноўным разышліся. Мы з маімі сябрамі сустрэліся там і вырашылі ісці ў бок стэлы, хоць там і адбываўся жах. Пішу гэта таму, што, нягледзячы на ўсе катаванні і гвалт падчас маіх сутак, я не пашкадавала ні хвіліны, што была часткай гэтай дзеі. Такіх прыгожых, смелых беларусаў я не бачыла ніколі. Я некалькі разоў плакала там ад сілы эмоцый. Мы сапраўды былі там НАРОДАМ з вялікай літары.

У замес мы трапілі значна пазней. Хацелі ўжо ісці дадому. Але каля парка Міцкевіча трапілі пад гранаты і газ. Пабеглі на Камсамольскую, там схаваліся ў дворыку. Нас знайшлі байцы не АМАП, а з уручскай брыгады. Не чапалі, проста крыкнулі, каб выходзілі. Нас было пяць чалавек (у тым ліку яшчэ адна дзяўчынка). Не білі, не прыніжалі. Але, канешне, не прадставіліся і не сказалі, за што затрымліваюць. Павялі ў апорку на Рэвалюцыйнай. Я паспела адправіць паведамленні двум сябрам і бацьку. Але толькі тое, што мяне павязалі. У апорцы прымусілі вырубіць тэлефон. Там нам звязалі рукі, запісалі даныя. Праз 15 хвілін перадалі амапаўцам у аўтазак.

Амапавец, які мяне вёў, адзеў сумку на шыю: «Что я, буду твое говно таскать?» І за пару хвілін, што вёў да аўтазака, паспеў сказаць: «Сама иди, я тебя вести не буду. Зае...ся уже сегодня за вами бегать. Не сиделось же вам, мразям, дома? Вас надо всех посадить на кол и отправить в космос, чтобы вы про свою педерастию там вещали».

У аўтазаку пасадзілі на калені тварам у сядзенне. Тыкнулі дручком у твар, калі я павярнула галаву ў бок амапаўца. На падлозе сядзелі хлопцы — потныя, бітыя. На іх увесь час раўлі матам, каб трымалі галаву ніжэй. Адзін хлопец паскардзіўся, што вельмі туга зацягнуты хамут — нуль рэакцыі. У мяне таксама было туга, але я маўчала. Другую дзяўчынку пасадзілі на лаўку, хамут знялі. Так мы ехалі па горадзе доўгі час. Да нас яшчэ дагружалі хлопцаў. У нейкі момант зацяклі ногі. Я папрасіла сесці. Дазволілі. Разам з дзяўчынкай ехаў у аўтазаку яе муж. Амапавец спытаўся, ці яна прыйшла на плошчу за ідэалогію ці так, з натоўпам. Яна адказала, што з мужам. Ён спытаў, дзе муж. Яна паказала. Мужа ўдарылі два ці тры разы па твары.

Праз хвілін 20 нас перасадзілі разам з дзяўчынкай у сапраўдны аўтазак з ячэйкамі. Пасадзілі разам, сказалі тым амапаўцам нас не чапаць. Тыя не хацелі нас браць.

Прыехалі адразу на Акрэсціна. Далей пачынаюцца два з паловай дні чысціліцкага пекла.

На момант, калі нас прывезлі (каля трох гадзін ночы), там ужо было шмат людзей. Мяне амаль не даглядалі. Жанчына проста спытала, ці ёсць нешта ў кішэнях, і адпусціла. Астатнія, каго затрымлівалі раней, здымалі ўсё адзенне і прысядалі. У мяне забралі рэчы. У заплечніку былі дакументы, тэлефон, усе карткі, правы ад машыны. Вопісу ніякага не зрабілі. Увесь час на нас крычалі матам, казалі, што мы «мразі» і што мы прадажныя, і што наступным разам будзем ведаць, за каго галасаваць.

Мяне адвялі ў камеру разам з той другой дзяўчынкай. Калі за намі зачыніліся дзверы, нам сказалі: «Добро пожаловать в страну толерантности, животные». Нас было 12. У камеры на шэсць чалавек. Амаль усе там былі назіральніцамі, якіх затрымалі ў 18–20 гадзін. Ніхто з іх не быў на мітынгу. Усе інтэлігентныя і разумныя. Мікрабіёлаг, настаўніцы, музыкі. У загадчыцы кафедры БДУІР узялі сына, мужа і бацьку (72 гады). Яна сама ўлезла за імі ў аўтазак. Адну ўзялі на ўчастку падчас галасавання, яна нават не была назіральнікам. Астатніх — на ўчастках. На іх проста выклікалі АМАП старшыні камісій.

У камеры не было туалетнай паперы. Вада з крана — і ўсё. У суседняй камеры была дзяўчынка з Расіі. Мы чулі, як яна патрабавала пасла, казала, што яе затрыманне незаконнае. Ёй адказалі: «На...уй твою Россию и твоего посла». Нікога не паклікалі. Яе імя Стогава Алеся Віктараўна, 1986 года нараджэння. Гуляла з хлопцам каля гатэлю «Вікторыя». Яе білі па твары кожны раз, калі яна прасіла пасла (гэта мы дазналіся потым, калі нас пасадзілі разам). Усю ноч мы чулі, як прывязджалі аўтазакі. Адзін за адным. Як крычалі на хлопцаў. Чулі, як іх білі дручкамі.

За ноч да нас прыходзілі разоў восем. Пыталіся даныя, ці ў колькі нас затрымлівалі. Я спадзявалася, што гэта для спісаў. Але ніякіх спісаў не вывешвалі. Мае бацькі дазналіся, дзе я, толькі на трэці ці чацвёрты дзень.

На наступны дзень нас зноў дапытвалі. Кожны раз, калі прыходзіў неха, на нас крычалі і казалі, каб мы глядзелі ў падлогу. Каб лепей бы мы сядзелі дома і пяклі пірагі. На наступны дзень прывялі яшчэ адну дзяўчынку. Узялі падчас мітынгу, але доўга трымалі ў РУУС.

Не кармілі. Паперу не прынеслі, у некаторых дзяўчат пачаліся месячныя.

Увечары стала зразумела, што зноў мітынгі, мы чулі выбухі на «Фрунзенскай», лічылі аўтазакі, якія пад'язджаюць. Налічылі не менш за сем. Хтосьці з хлопцаў паклікаў доктара, я чула нешта

# крыві на падлозе гарвыканкама...

Побач сядзеў мужчына. Яму зрабілі ўкол. Мабыць, ён перанёс гіпертанічны крыз. Па словах Таццяны, у ГАУС дзяжурылі дзве «хуткія».

— Мяне падванітоўвала, рукі гарэлі. Памералі ціск: 150 на 100. Далі таблетку. Сказалі «чэрапна-мазгавая траўма» пад пытаннем, напісалі накіраванне ў бальніцу і сышлі.

У бальніцу Таццяну адпусцілі праз тры гадзіны: увесь гэты час яна чакала дазволу міліцыі.

— Злева ад уваходу ў цір ляжалі людзі, маладыя, прыгожыя. Мяркую, што яны не супраціўляліся пры затрыманні. Тыя, хто ляжаў справа, былі жахліва збітыя. Тых, хто нешта казаў, адводзілі на калідор і білі. Чалавек сказаў: «Дабіце мяне прыкладам, навошта мне так жыць?» З калідора даносіліся стогны, чутны былі гукі ўдараў.

Праз дзве гадзіны затрыманым загадалі сесці. Спыталі, хто хоча ў туалет. Людзі казалі, што не змогуць: рукі так зацяклі, што яны не адчувалі пальцаў.

Калі Таццяну вывелі з ціра, у калідоры яна ўбачыла лужыну крыві.

— У «хуткай» са мной ехалі двое мужчын. Ігар з Лунінца. Яго берцам ударылі ў скронь, вочы заплылі, сінія. Яму было дрэнна. Казаў, што яго білі дручкамі па спіне. Мяркую, што яму адбілі левую нырку, таму што ён прыпадаў пастаянна на левую нагу, не мог выпрастацца.

Другі — Алег — жыве ў Пінску. Гэта ў яго дасталі сустаў з локця. Затрымалі яго ў цэнтры горада, калі ён вяртаўся з рамонту, пры сабе ў яго былі будаўнічыя інструменты: дрыль, нажоўка. Алег спрабаваў растлумачыць, што яго дом побач, але гэта не падзейнічала. У «хуткай» ён казаў, што памятае, як у 90-я нападалі бандыты, а цяпер гэта робіць АМАП.

У бальніцы Таццяне зрабілі кампутарную тамаграму і здымак чэрапа.

— Лекар сказаў, чэрапна-мазгавой траўмы няма: ідзіце дадому. «Доктар, а з гэтым што рабіць?» — спытала я і паказала яму сінія рукі.

— Гэта не да мяне, — адказаў лекар.

На наступны дзень пацярпелая пайшла да тэрапеўта, якая адмовілася адкрываць бальнічны ў сувязі з траўмамі. Таццяна схадзіла ў траўмапункт на паўторны прыём, дзе афармілі бальнічны ліст.

**«Мне ўдавалася заснуць на дзве гадзіны. Я не ела. Баялася выклікаць таксоўку са свайго нумара. Мне здавалася, што цяпер за мной прыйдуць, пасадзяць. Дачку не адпускала на змену, таму што людзей забіралі з крамы...»**

— У мяне балелі галава і шыя, я не магла падняць плечы. З 11 па 20 жніўня я была на бальнічным.

19 жніўня, праз 9 дзён пасля затрымання, Таццяну выклікалі ў Следчы камітэт. «Хуткая» перадала звесткі аб яе траўмах, цяпер СК праводзіць праверку.

— Следчы ўгаварыў мяне схадзіць у ГАУС, спытаць, дзе мае канфіскаваныя рэчы — мабільны тэлефон, залаты ланцужок з ладанкай. Сказала, што баюся. Ён мяне супакоіў: ідзіце, нічога страшнага не здарыцца.

24 жніўня Таццяна адправілася ў міліцыю.

— Высветлілася, што ніякіх запісаў няма, рэчаў таксама. Сказалі пытацца ў Следчым камітэце.

— Што вам сказаў следчы?

— Што будзем шукаць людзей у чорным.

Таццяна мяркуе, што затрыманні ў Пінску праводзілі прыезджыя:

— Кажуць, што ў інтэрнаце Палескага ўніверсітэта жылі некалькі сотняў вайскоўцаў.

У жанчыны склалася ўражанне, што тыя, хто збіваў людзей, былі пад уздзеяннем наркотыкаў.

— Чаму вы так думаеце?

— Я як медык кажу. Таму што яны адчувалі радасць, азарт ад таго, што яны робяць. Як можна выконваць загады, калі перад табой пажылы чалавек, жанчына, дзіця?

Некалькі начэй пасля затрымання Таццяна не магла спаць.

— Мне ўдавалася заснуць на дзве гадзіны. Я не ела. Баялася выклікаць таксі са свайго нумара. Мне здавалася, што цяпер за мной прыйдуць, пасадзяць. Дачку не адпускала на змену, таму што людзей забіралі з крамы...

Таццяна кажа, што справіцца з посттраўматычным сіндромам ёй дапамаглі сябры і псіхалагі, да якіх яна звярталася праз BY_Help.

# катаў на Акрэсціна»

пра «кровотечение открылось». Яму адказалі: «Да это твое дырявое очко кровоточит, готовься, я тебе туда дубинку засуну или член. Кровоточит у него». Хуткая прыехала вельмі позна. Не ведаю, ці яму дапамаглі.

На нас склалі пратаколы. Выклікалі падпісваць. На нас раўлі. Казалі: «Падпішаце, заплоціце штраф і пойдзеце дамоў, а хто не падпіша — будзе сядзець». Што напісана ў пратаколе давалі чытаць не ўсім. Закрывалі рукой, крычалі, нічога не тлумачылі. Многія дзяўчаты ўсё падпісалі. А пратакол быў аднолькавы ва ўсіх: «З 22:10 да 22:30 была затрымана на стэле, крычала "Свабоду Статкевічу!", "Жыве Беларусь!" і "Стоп таракан!", супраціўлялася пры затрыманні». Пры тым, што некаторыя дзяўчаты сядзелі ў ЦІПе ўжо з 18 гадзін. Я пратакол не падпісала, усюды пісала, што не згодная і патрабавала адваката. Мне дазволілі прачытаць усё, я пыталася, што за артыкулы там і тут. На што яны не адказвалі — так і пісала.

Потым, мабыць, стала няма дзе размяшчаць людзей. На нас прыйшлі і павялі на чацвёрты паверх. Адчынілі дзверы — і я зразумела, што, напэўна, тут і будзе канец. Камера на чатыры чалавекі. Там ужо сядзелі 23 жанчыны! А нас было 13. Увогуле стала 36. Паветра не было. Паперы не было. Ежы не было. Да нас пасадзілі дзвюх алкагалічак. Ад іх страшэнна смярдзела. На падлозе вада: жанчыны прасілі адчыніць дзверы, у нейкі момант дзверы адчыніліся — і канвойны выліў на падлогу вядро вады і зачыніў дзверы. У вільготным памяшканні дыхаць увогуле не было чым. У дзяўчынкі Юлі з нашай папярэдняй камеры пачалася панічная атака. Яе пачало ванітаваць. Потым выклікалі адну дзяўчынку. Мы папрасілі доктара. Нуль рэакцыі. Праз некаторы час мы пачалі крычаць. Адчыніліся дзверы — і на нас вылілі вядро халоднай вады. Але потым гэтыя каты зразумелі, што дзяўчына можа памерці, яны яе вывелі на пару хвілін падыхаць. І запусцілі зноў. Яна маліла іх, прасіла, адказ: «Не заставляйте нас применять силу».

Праз некаторы час нас згадзіліся вывесці на калідор падыхаць (змяніліся каты, заступілі новыя на змену). Падчас стаяння ўпала ў непрытомнасці дзяўчына. Яна на гармонах, і ўвогуле інвалід 2 ці 3 групы. Яе пасведчанне, здаецца, выкінулі. На той момант мы ўжо былі ў камеры некалькі гадзін і другія суткі без ежы. Паклікалі доктара, тая нешта ёй дала. Дзяўчыну зноў завялі да нас у камеру. Пасля гэтага выводзілі яшчэ раз і адзін раз проста адчынялі дзверы.

Наша адзінае выратаванне: адчыненае вакно і кармушка (у якую даюць ежу), яны стварылі мікраскразняк, але гэта не вельмі дапамагала. У адзін момант кармушку зачынілі. Мы пачалі крычаць, але праз хвіліну ўсё зразумелі. Мы пачулі, як з камеры насупраць вывелі хлопца, і пачалі лупцаваць дубінай. Было страшна слухаць. Пасля 3-4 удараў фраза: «А теперь бери и вытирай свое говно. Как тебе вот такая тряпка?». Я не ведаю, што там дакладна адбылося. Але чуць гэта было немагчыма. У паловы дзяўчат у суседніх камерах сядзелі іх хлопцы, мужчыны і нават бацькі.

Ноччу ў адной з алкагалічак пачаўся панос. 37 чалавек. У камеры на чатырох. Адкрыты туалет. Паперы няма. Аб адным мы не пашкадавалі: ішлі другія суткі без ежы. Бо мы б званітавалі там усё.

На наступны дзень пачаліся суды. Маразм быў у тым, што спачатку дзяўчат выклікалі да суддзяў Маскоўскага раёна (яны прыехалі да нас), а потым тых жа дзяўчат да суддзяў Фрунзенскага раёна. У некаторых атрымалася па 2 рашэнні з рознымі данымі. Мой суддзя даў мне 10 сутак, хаця за пяць хвілін да мяне суддзя ў адным з ім кабінеце дала хлопцу, які быў разам са мной, 10 базавых. Я спыталася — чаму? Ён паціснуў плячыма: «Не я выносіў рашэнне па вашаму хлопцу». Я цудам паспела пагутарыць з гэтым хлопцам у калідоры. Толькі так мае бацькі нарэшце дазналіся, дзе я і што са мной.

90 працэнтам нашых дзяўчат далі суткі. Пара чалавек атрымалі 4–5, асноўная маса — 7, пара — 10, пара — 12, пара — 15.

Разам з намі была сям'я, іх узялі як назіральнікаў. Маці, дзве сястры і іх бацька. Дома засталіся два ката. Усім жанчынам — па 10 сутак. Што з бацькам — не зразумела. Ці гэта правасуддзе? Як гэтая суддзя глядзела ім у вочы? За што?

Давалі вельмі вялікія штрафы, не менш за 20 базавых. Самы жах — большасць не адпускалі адразу пасля рашэння аб штрафе. У нас такіх было двое: маці з дыябетам і яе дачка, назіральніцы. Пасля суда іх павялі зноў у камеру, трымалі да раніцы. А на наступны дзень дачка, нягледзячы на паперу ад пракурора, паехала з намі ў Жодзіна. Маці засталася. Не ведаю, што з ёй. Але ўвесь час, што яна была з намі, мы прасілі для яе лекі. Ніхто не прынёс. Трох дзяўчат выпусцілі адразу пасля суда.

Яшчэ ноч у душагубцы. Нас стала 33. Каля 22 гадзін да нас завялі яшчэ чатырох. Сярод іх жанчына гадоў 50. Яна проста ў свой адзіны выходны выйшла ў краму, каб купіць ежы бацьку-інваліду і ішла міма школы. Ёй далі 12 сутак. На нашы крыкі быў адказ: «Вы яшчэ пабачыце, што такое шмат людзей». Потым мы дазналіся, што ў іншай камеры на чацвярых было 53 жанчыны.

Амаль не спалі. Душна. Не кармілі. Туалетную паперу прынеслі. У алкагалічак — панос. Адна «схапіла белачку» і ўсю ноч хадзіла па галовах людзей, хацела мыцца.

Усю ноч вазілі аўтазакі. Мы налічылі не менш за дзевяць. Хлопцаў лупцавалі да двары. Мы ўсё чулі. Лупцавалі і адразу адпускалі. Не было месца ў камерах зусім. Іх адпускалі з крыкам: «Я даю тебе 5 минут, уё..вай отсюда, вещи будешь спрашивать в суде». Мы бачылі праз вакно, як яны бягуць і кульгаюць. Некаторых забірала таксі (валанцёры, думаю).

Асобна пра валанцёраў. Толькі дзякуючы ім мы ведалі, колькі гадзін. І што няма спісаў. І хто каго кахае. Гэта была неверагодная падтрымка!

Наступнай раніцай нам прынеслі хлеб. Першы раз з ночы затрымання мы паелі. Нас пашыхтавалі на вуліцы. Некаторыя засталіся ў камеры (тыя, каго не паспелі асудзіць). Дзяўчаты стаялі проста тварам да сцяны ў двары. Хлопцы — на каленях тварам у зямлю. Некаторыя толькі ў майтках. Мы бачылі, якія ў іх гематомы на нагах. Некаторыя дзяўчаткі плакалі. Некаторым стала блага, адна страціла прытомнасць. На яе палілі ваду, далі пасядзець, доктара не выклікалі. Усім «слабенькім» далі сесці.

Пачалі заводзіць у аўтазак. Пры гэтым мы чулі, як галоўны там расказваў, што ва ўсіх нас па 50 еўра ў кішэні, што мы прадажныя. І што мы, бабы, лепей бы сядзелі дома і варылі баршчы. Гэта чуць было немагчыма, мы пачалі абурацца, ён трошкі знізіў тэмбр, зразумеў, што 99% дзяўчат тут выпадкова. Ужо не выбухаў.

Калі заганялі хлопцаў у аўтазак, іх прымушалі бегчы. У некаторых былі відавочныя траўмы (мабыць, пераломы) ног. Але іх прымушалі бегчы.

У нашым аўтазаку былі толькі дзяўчаты. Калі заходзілі, адзін амапавец пачаў крычаць, каб сядалі на падлогу. Але потым зайшоў іншы, добры (наколькі гэты магчыма) амапавец. Дазволіў усім сесці, нас накарміў хлебам і далі вады. Па дарозе распавядаў, што адбываецца, што ён не верыць ні таму боку, ні іншаму. І што мы ніколі не дадзім рады ў поглядах адзін аднаму.

Пра Жодзіна я не магу сказаць нічога, акрамя таго, што гэты былі самыя добрыя, сумленныя і клапатлівыя людзі за ўвесь час «прыгод». Кармілі, прыносілі паперу, пракладкі нават купілі. Вывесілі спісы ўсіх, каго ім прывезлі. Калі мы не маглі зразумець, ці прыехалі рэчы з Акрэсціна, вадзілі па ўсіх складах і шукалі рэчы з намі. Мой нізкі паклон адэкватным людзям, якія былі сапраўдным выратаваннем у гэтыя дні.

У пятніцу вечарам нас усіх выклікалі, далі падпісаць паперу, што мы абяцаем больш не ўдзельнічаць у такіх мерапрыемствах. Я не хацела падпісваць. Але праблема ў тым, што паперу падпісаць у любым выпадку прыйшлося б, нават калі б адсядзела ўсе суткі. А я вельмі перажывала за бацькоў. Таму пагадзілася.

Калі выйшла, хацелася плакаць. Не ад таго, што перажыла, а ад цудоўных валанцёраў. Я ганаруся быць з імі часткай аднаго народа.

Сустракалі мяне сябры. Бацькі былі ў Мінску.

Я не ведаю ніводнага прозвішча, але я памятаю ўсе твары. Усе да аднаго. Асабіста кожнага з катаў на Акрэсціна.

Мы будзем пісаць калектыўную скаргу ў пракуратуру, ліст у ААН, праваабарончыя арганізацыі. Таму што тое, што адбывалася, — гэта катаванне і правабы дэфолт.

Цяпер на мне вісяць пяць недаседжаных сутак. Я, хутчэй за ўсё, невыязная. І мне забаронена прымаць удзел у масавых мерапрыемствах. Таму што наступнае затрыманне — крыміналка. Сяджу дома, гляджу ў вакно з Пушкінскай. Пішу гэты тэкст пад няспынныя гудкі машын. Мы вялікі народ, мы выстаім. Усё гэта было недарэмна».

# Ці будзе беларускі гатэль «Ламберт»?

Алег НОВІКАЎ

**У экспертным асяроддзі не выключаюць, што некаторыя краіны свету могуць прызнаць Святлану Ціханоўскую, якая знаходзіцца за мяжой, прэзідэнтам Беларусі. Чым не падстава, каб узгадаць пра феномен урадаў у выгнанні?**



**30 лістапада 1974 г. Сесія Рады БНР у выгнанні прыняла рэзалюцыю, у якой крытыкавалася савецкая акупацыя Беларусі: русіфікацыя, адсутнасць дэмакратычных выбараў, парушэнні правоў чалавека**

Дарэчы, такая з'ява — не зусім ужо і экзатычная для Беларусі. Не толькі таму, што да гэтага часу ў Злучаных Штатах дзейнічае Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, якая лічыць сябе прадстаўніком інтарэсаў Беларусі ў вольным свеце. Цікава, што па стане на 2020 год Рада БНР — самы стары дзеючы «ўрад у выгнанні». Так сталася трошкі выпадкова, паколькі на пачатку 1990-х гадоў Рада была гатовая прызнаць Беларусь і, як і іншыя аналагічныя ўрады ў выгнанні (Эстоніі, Польшчы, Украіны), перадаць свае мандаты кіраўніцтву постсавецкіх рэспублік. Лічыцца, што акт перадачы сапсаваў сам Аляксандр Лукашэнка.

Аднак значна раней за Раду БНР, у 1830-х гадах у парыжскім гатэлі «Ламберт» адна з фракцый удзельнікаў польскага лістападаўскага паўстання стварыла нешта накшталт кардынацыйнага цэнтра. Яго чальцы разлічвалі ў выпадку вызвалення Польшчы ад расійскай адміністрацыі вярнуцца на радзіму ў статусе легальнага ўраду. Асноўнымі напрамкамі дзейнасці «Ламберту» былі дыпламатыя, а таксама падтрымка польскай літаратуры і культуры. У тым гатэлі, як бы цяпер сказалі, «тусаваліся» і выхадцы з Беларусі, у тым ліку Адам Міцкевіч.

Увогуле, калі казаць паліталагічнымі азначэннямі, урад у выгнанні — гэта палітычная група, якая сцвярджае, што з'яўляецца законным урадам краіны, але не можа ажыццяўляць законную ўладу і таму працуе ў нейкай іншай дзяржаве. Урад у выгнанні можа таксама сфарміравацца на аснове пераканання яго стваральнікаў у нелегітымнасці кіруючага ўрада. Чальцы эміграцыйнага ўрада звычайна плануюць аднойчы вярнуцца ў родную краіну і аднавіць фармальную ўладу.

Міжнароднае права прызнае, што ўрады ў выгнанні могуць прадпрымаць самыя розныя дзеянні ў сваіх паўсядзённых справах. Аж да таго, што могуць заключаць міжнародныя дамовы, мець узброеныя сілы, выдаваць пашпарты, і нават праводзіць выбары. Так, напрыклад, робіць урад Тыбету. Менавіта абраныя дыяспарай дэпутаты тыбецкага парламенту зацвярджаюць кандыдатуру кіраўніка кабміну.

Колькасць урадаў у выгнанні вельмі цяжка вызначыць. Па-першае, урады некаторых дзяржаў лічаць нейкія некантралюемыя імі тэрыторыі сваімі і, адпаведна, ствараюць іх адміністрацыі. Напрыклад, у Паўднёвай Карэі ёсць дэпартамент, які «кіруе» Паўночнай Карэяй. А ў Херсоне засядае кіраўніцтва анексаванага Крыма. Па-другое, некаторыя такія ўрады падобныя на нейкія сатырычныя праваказацыі. Тут можна ўзгадаць нашу Вейшнорыю або «ўрад Вольнага горада Данцыга» (Гданьска), які дзейнічае ў Германіі.

Сярод гісторыкаў няма агульнага меркавання, калі ўзнікла такая практыка палітычнай дзейнасці. Дапускаецца, што першымі ўрадамі ў выгнанні можна лічыць каралеўскія двары, якія стваралі за мяжой выгнаныя манархі. Напрыклад, так паступілі Сцюарты, якія збеглі з Англіі пасля перамогі Кромвеля. Дарэчы, у выніку Сцюарты дамагліся рэстаўрацыі. Іх прыклад, напэўна, натхняе прадстаўнікоў дынастый, якіх таксама пазбавілі трона. Такімі ідэямі натхняюцца, напрыклад, сваякі іранскага шаха, які страціў уладу ў 1979 годзе.

Відавочна, што найбольш часта ўрады з'яўляюцца ў ваенны час. Так, з-за нямецкай акупацыі ў часы Другой сусветнай вайны перанеслі сваю дзейнасць за мяжу аж 13 урадаў, у тым ліку Польшча, Югаславія, Францыя і гэтак далей. Праўда, толькі частка з іх пасля вайны аднавілася ў сваёй краіне.

Сінхронна свае ўрады ў выгнанні стварылі і пранацысцкія палітыкі. Напрыклад, часовы ўрад Свабоднай Індыі быў створаны ў 1943 годзе індыйскімі эмігрантамі-нацыяналістамі — з мэтай вызвалення Індыі ад брытанскага праўлення, пры падтрымцы Японіі. Урад выпускаў уласныя грошы і паштовыя маркі, меў сваю судовую сістэму і грамадзянскі кодэкс. Многія індусы ўспрымалі яго як законны ўрад, што адстойвае незалежнасць Індыі. На думку некаторых, шырокія пратэсты супраць спробаў брытанцаў асудзіць пасля вайны жаўнераў Свабоднай Індыі і прымусілі Лондан адмовіцца ад калоніі.

Што да апошніх гадоў, то на памяць прыходзяць два выпадкі. Першае — гэта прызнанне Захадам венесуэльскага палітыка Хуана Гуайда прэзідэнтам Венесуэлы. Алібі для такога ходу забяспечылі вельмі супярэчлівыя выбары прэзідэнта, на якіх фармальны прэзідэнт Мадура элегантна атрымаў 67 працэнтаў. Праўда, пакуль Мадура стрымлівае ўдар, і нават абяцае хутка арыштаваць Гуайда.

У 2011 годзе за межамі Сірыі была створана Нацыянальная кааліцыя сірыйскіх рэвалюцыйных і апазіцыйных сіл, якая спрабуе пакласці канец кіраванню Башара Асада. У 2012-м міністры замежных спраў 27 краін Еўрасаюза абвясцілі аб прызнанні Нацыянальнай кааліцыі «законнымі прадстаўнікамі сірыйскага народа». Падобную заяву зрабілі і ўрады шэрагу краін Персідскага заліву. Кааліцыі нават удалося дабіцца дыялогу з Дамаскам, аднак апошнім часам асаблівых прарываў не было.

Пры ўсім знешне несур'ёзным характары працы ўрадаў у выгнанні, яны ўсё роўна з'яўляюцца нейкім палітычным суб'ектам, сімвалам наяўнасці альтэрнатывы. Напэўна таму савецкая разведка вельмі моцна змагалася з урадамі краін, якія былі абвешчаныя падчас Грамадзянскай вайны, а пасля эміграваліі. Напрыклад, Лаўрэнцій Берыя асабіста займаўся ліквідацыяй грузінскага аналага БНР.

Магчыма, перад вачыма Берыі стаяла гісторыя Чэхаславацкай нацыянальнай рады — кіруючай палітычнай арганізацыі чэхаславацкай эміграцыі ў перыяд Першай сусветнай вайны, якая спачатку займалася толькі інфармацыйнай працай. У канцы Першай сусветнай савет быў прызнаны ўрадамі Францыі, Вялікабрытаніі, ЗША і Японіі ў якасці афіцыйнага прадстаўніка чэхаў і славакаў — іператвораны ў чэхаславацкі ўрад, які затым трыумфальна перабраўся ў Прагу.

Як бачым, некаторыя шанцы ў міграцыйных урадаў ёсць, аднак для іх рэалізацыі трэба камбінацыя шматлікіх фактараў.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Партнёрства з Масквой становіцца для Лукашэнкі паступова безальтэрнатыўным, асабліва з улікам таго, што яго сістэма жывая дзякуючы расійскім крэдытам. Гэта ідэальная сітуацыя, каб Лукашэнка пачаў выконваць абавязацельствы перад Расіяй, узятыя ім на сябе раней, і перайшоў ад істэрычнага шантажу да пакоры. Мяркуючы па ўсім, у далейшым гэтая пакора будзе азначаць перадачу ўлады ў Беларусі пераемніку ў межах кантраляваных Масквой працэсаў. Бягучая перамога над апазіцыяй — несфальсіраванай, дэзарыентаванай — не мяняе таго, што гэты прэзідэнцкі тэрмін для Лукашэнкі, хутчэй за ўсё, апошні».

**Взгляд (Расія)**

«Сутнасць рэвалюцыі, якая адбываецца, якраз у тым і палягае, каб адысці, адпаўзці ад краю прорвы, якая пагражае стратай беларускай культуры, беларускай ідэнтычнасці і ў канчатковым выніку — беларускай дзяржаўнасці. У сваю чаргу, Крэмль выдатна гэта разумее, і гэтага не хоча. Маскве пажадана законсерваваць Беларусь у цяперашнім стане, калі беларуская дзяржаўная мова падмяняецца беларускім дзяржаўным акцэнтам».

**Укрінформ (Украіна)**

«Пагроза ўзброенай аперацыі Расіі на тэрыторыі Беларусі ператварае мірны пратэст супраць Лукашэнкі ў нацыянальна-вызваленчую барацьбу беларускага народа. Калі да 25% грамадзян Расіі, якія прагаласавалі супраць паправак у Канстытуцыю 1 ліпеня, дадаць мільён беларускіх партызан, з так званай "стабільнасцю" можна будзе развітацца ўсім».

**Новая газета (Расія)**

«Гледзячы па ўсім, кожны з бакоў, а таксама Расія і Захад, маюць на ўвазе пад магчымай канстытуцыйнай рэформай нешта сваё. Аднак яна можа стварыць поле для перамоваў паміж Лукашэнкам і апазіцыяй. Такая прапанова забяспечыць па меншай меры нейкую стабілізацыю і перадачу часткі ўлады апанентам рэжыму: яны б кіравалі эканомікай і ўрадам, а Лукашэнка кантраляваў бы сілавыя структуры, што гарантавала б захаванне ранейшага геапалітычнага становішча краіны, але без поўнага падпарадкавання Маскве».

**wPolityce.pl (Польшча)**

«Ці не прыйшоў час нарэшце нам, у Чэшскай Рэспубліцы, зразумець, што Беларусь — не Расія? Ці не павінны мы прызнаць за гэтай вальнадумнай усходнееўрапейскай краінай права на ўласнае імя, якога яна даўно дамагаецца і якое адстойвае ў Еўропе і свеце? Ці не трэба нашаму МЗС пагадзіцца з тым, што існуе — Republika Bělorus або Bělarus? Гэта зусім не банальнае лінгвістычнае пытанне! Тут справа ў прынцыповай павазе да беларускага народа і яго грамадзянскай эмансіпацыі. У сённяшняй барацьбе беларусаў за свабоду вырашаецца, у тым ліку, і пытанне пра тое, куды распасціраецца так званы "рускі свет" Пуціна, што пачынае падступна зліваецца з Еўразіяй. Гэтая геапалітычная ідэя ў крамлёўскай трактоўцы знаходзіць усё больш дэспатычныя рысы».

**Forum24 (Чэхія)**

«Аўтакратыі, якія глядзяць у мінулае, могуць існаваць многія гады. Пуцін і Лукашэнка прыйшлі да ўлады, паабяцаўшы вяртанне да эпохі страчанай славы, і ў гэтым яны не адзінокія. Спачатку гэта можа быць успрынята станоўча, але ў канчатковым выніку, калі выкарыстоўваць словы беларускіх пратэстоўцаў, "яны надакучваюць". А гэта той момант, да якога мусяць быць гатовымі дыктатары».

**The Economist (Вялікабрытанія)**



Фота www.tsn.ua

# Ад простага «лідара» да «вялікага сонца»

Алег НОВІКАЎ

**Адна з характарыстык псіхікі дыктатараў — дзіўная любоў да гучных тытулаў, што часам гуляе з імі кепскую гульню.**

Як і варта чакаць, найбольш папулярны тытул у клубе дыктатараў — «правадыр» у розных у лакальных варыяцыях. У Германіі гэта быў фюрэр (як вядома, так называў сябе Гітлер), а ў Італіі, адпаведна, «дучэ» (другое імя Беніта Мусаліні). У Славакіі, якая была саюзніцай Берліна, дыктатар Ёсіп Броз Ціта называўся «водца».

А вось Франсіска Франка тытулу «каўдыльё», што таксама азначае «лідар», паказалася замала. Паводле пратаколу, поўны тытул Франка гучаў наступным чынам: «Каўдыльё Іспаніі міласцю Божай». Прычым, «міласцю Божай» ужывалася не проста для прыгажосці, а канкрэтна азначала, што іспанскі народ, на шчасце, быў пазбаўлены савецкай акупацыі.

Цікавая сітуацыя была ў Румыніі. Пасля вайсковага перавароту 1940 года яго арганізатар Іон Антанэску запатрабаваў, каб яго называлі «кандуктэтор», што перакладаецца з румынскай мовы як усё той жа «лідар». У выніку вайны «кандуктэтор» як саюзнік Гітлера быў пакараны смерцю. Хутка на яго месца прыйшоў камуніст Нікалаэ Чаўшэску, які таксама абвясціў, што ён цяпер — новы «кандуктэтор». Цяжка сказаць, як румыны не блыталіся ў гэтых вызначэннях.

Другі па папулярнасці тытул сярод аўтакратаў і дыктатараў звязаны з азначэннем «кіраўнік» альбо «начальнік». Пад гэтую катэгорыю трапляюць «Паглаўнік Незалежнай Харвацкай Дзяржавы» Антэ Павеліч (Poglavnik — «правадыр», «лідар») або «начальнік дзяржавы» (naczelnik państwa) паляк Юзаф Пілсудскі.

Некаторыя дыктатары любілі называць сябе «вышэйшы». Такі тытул, напрыклад, узяў сабе парагвайскі дыктатар Хасэ Гаспар Радрыгес дэ Франсія. Дарэчы, ён нават не хаваў ад суайчыннікаў, што кіруе краінай зусім недэмакратычнымі сродкамі. «Вышэйшы» загадаў, каб яго афіцыйна таксама называлі — гэтак жа, як у свой час Юлія Цэзара, — Dictador perpetuo (вечны дыктатар). Падобным чынам паступіў і малійскі дыктатар Муса Траарэ, якога афіцыёз называў «прэзідэнт на ўсё жыццё». Праўда, з часам гэты «прэзідэнт на ўсё жыццё» аказаўся ахвярай путчу.

Няма сумневаў, што лідарства ў нефармальным спаборніцтве па тытулах утрымлівае Паўночная Карэя. Як толькі ні называлі сябе прадстаўнікі дынастыі Кімаў, якая знаходзіцца пры ўладзе амаль 75 гадоў! Пералічым, напрыклад, некаторыя рэгаліі Кім Чэн Іра, які ў паўночнакарэйскіх СМІ праходзіў як «Вялікае сонца XXI стагоддзя», «пуцяводная зорка», «накіравана сонечны прамень» і іншае.

Дарэчы, той жа Кім Чэн Ір у чымсьці пераплюнуў беларускага кіраўніка, які любіць мянушку «бацька». Паўночнакарэйскага правадыра пры жыцці называлі не проста «бацька», а «бацька нацыі», «бацька народа», «каханы і паважаны бацька», і, нарэшце, «пяшчотна любімы бацька».

Няма адказу на пытанне, чаму адным дыктатарам хапае аднаго тытулу, а іншым спатрэбілася мноства найменняў. Да апошніх, натуральна, належыць Іосіф Сталін. Савецкая прэса апісвала постаць Сталіна вялікай колькасцю эпітэтаў: «вялікі правадыр і настаўнік»; «мудры бацька»; «дойлід камунізму»; «лакаматыў рэвалюцыі»; «барацьбіт»; «сокал» і гэтак далей. Нічога дзіўнага, што кіраўнікі краін савецкага блоку кінуліся таксама прыдумляць сабе гучныя назвы.

Захапленне сталінскай спадчынай чытаецца ў тытулах постсавецкіх дыктатараў, асабліва з Цэнтральнай Азіі. У 1993 годзе туркменскі прэзідэнт Сапармурат Ніязаў афіцыйна прыняў тытул «Туркменбашы», што перакладаецца як «бацька ўсіх туркменаў». Яго пераемнік Гурбангулы Бердымухамедаў спыніўся на тытуле «Аркадаг» (заступнік).

Хто рабіў у гэтай галіне канкурэнцыю камуністам, дык гэта афрыканскія дыктатары. І, натуральна, першае месца тут належыць дыктатару Уганды Ідзі Аміну, чый тытул уключаў наступныя фрагменты: «фельдмаршал, уладар усіх звяроў на зямлі і рыб у моры, заваёўнік Брытанскай Імперыі ў Афрыцы наогул і ва Угандзе ў прыватнасці». Зрэшты, тытул, які абраў сабе заірскі дыктатар Мабуту Сэса Сэкэ, таксама варта агучыць: «Усёмагутны воін, які дзякуючы сваёй устойлівасці, трываласці і волі да перамогі будзе ісці ад адной заваёвы да іншай, пакідаючы пасля сябе агонь».

Дарэчы, самае цікавае, што спіс тытулаў дыктатараў хутка можа прапоўніцца. Замежная прэса ўсё часцей дапускае, што цяперашняга паўночнакітайскага правадыра Кім Чэн Ына на пасадзе кіраўніка КНДР зменіць яго сястра Кім Ё Чжон. Застаецца толькі здагадвацца, які тытул у такім выпадку яна будзе насіць. З улікам мясцовай спецыфікі, можна дапусціць самыя экстравагантныя варыянты, накшталт «славутая генеральша, якая сышла з нябёсаў» або «бліскучая кіраўніца, што цалкам увасабляе выдатнае аблічча, якім павінен валодаць лідар».

Зрэшты, захапленне гучнымі прыгожымі назвамі ў выніку часта гуляе супраць яго носьбіта. Чым гучнейшы тытул, тым больш смешна выглядае дыктатар пасля калапсу свайго рэжыму.

## ЗАМЕЖНЫЯ ПАЛІТЫКІ ПРА ПАДЗЕІ Ў БЕЛАРУСІ

**Жазэп БАРЭЛЬ, вярхоўны прадстаўнік Еўрасаюза па замежных справах:**



«Еўрасаюз уводзе санкцыі супраць некалькіх беларускіх чыноўнікаў за іх меркаваную датычнасць да фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў і выкарыстанне сілы ў дачыненні да пратэстоўцаў. У санкцыйны спіс будуць уключаныя асобы самага высокага палітычнага ўзроўню. Мы чарговым разам выказваем нашу поўную падтрымку суверэнітэту і незалежнасці Беларусі і асуджаем жорсткія рэпрэсіі ў дачыненні да беларускага народа».



**Штэфі ЗАЙБЕРТ, афіцыйны прадстаўнік урада Германіі:**

«Федэральны ўрад цвёрда падтрымлівае народ Беларусі ў яго імкненні да міру, да дэмакратычнага ўдзелу і палітычных пераменаў. Мужнасць многіх тысяч людзей сапраўды ўражвае. Іх не палохаюць працяглыя рэпрэсіі».



**Матэвуш Маравецкі, прэм'ер-міністр ПОЛЬШЧЫ:**

«Масавыя пратэсты ў Беларусі можна параўнаць са жнівенем 1980 года ў Польшчы, калі ў Гданьску былі падпісаны пагадненні, якія паклалі пачатак мірнай рэвалюцыі ў гісторыі краіны і далейшых пераўтварэнняў. Гэтак жа, як і мы, палякі, у жніўні 1980 года, яны (беларусы) змагаюцца ў жніўні 2020-га за свабоду, дэмакратыю і суверэнітэт. Браты-беларусы, цяпер вы перажываеце свой жнівень, свой прыліў салідарнасці. Мы з вамі, польская салідарнасць з вамі».

**Арсень ЯЦАНЮК, экс-прэм'ер-міністр Украіны:**



«Самі па сабе падзеі ў Беларусі і пагроза таго, што на няпэўны час гэта краіна акажацца пад уплывам Расіі, патрабуюць дзеянняў з боку Захаду і Украіны. Трэба разглядаць грамадзянскае паўстанне ў Беларусі як неад'емную частку еўрапейскага працэсу, што патрабуе ад ЕС пераглядаць агульнага стаўлення да Усходняй Еўропы. На практыцы гэта азначае даць Беларусі, Грузіі, Малдове і Украіне выразныя сігналы пра тое, што сяброўства ў ЕС і NATO дасягальнае, калі будзе выкананы канкрэтны план дзеянняў».

**Кейлі МАКІНАНІ, прэс-сакратар Белага дома:**



«Урад ЗША працягвае ўважліва сачыць за сітуацыяй у Беларусі. Амерыканскі бок падтрымлівае правядзенне незалежнай міжнароднай ацэнкі прэзідэнцкіх выбараў, якія там адбыліся. Многія грамадзяне Беларусі выходзяць на мірныя пратэстныя акцыі. Гэта сведчыць, што ўлады рэспублікі не могуць больш ігнараваць заклікі народа да дэмакратыі».

Таццяна ПРОЦЬКА

# Расстрэл за «падрыў

**У часы НЭПу для барацьбы з бюракратычным уплывам вырашылі яшчэ болей пашырыць ролю спецслужбаў, каб, абапіраючыся на іх, змагацца з гэтай новай формай контррэвалюцыі. Узначаліў барацьбу спачатку Фелікс Дзяржынскі, а пасля яго раптоўнай смерці — Іосіф Сталін, які даволі хутка гэты НЭП і скончыў.**




**У братэрскім яднанні праца сялян і рабочых. Плакат 1921 года**

## Савецкая спадчына

Сучасны чытач, асабліва маладых, ужо дастаткова далёкі ад разумення працэсаў, якія адбываліся ў першай палове XX стагоддзя. Гэтаму шмат у чым спрыяе і наяўнасць афіцыйна-дзяржаўнай версіі савецкай гісторыі. Яшчэ жывым сведкам жыцця XX стагоддзя яно, мінулае, згадваецца толькі як перыяд іх асабістага жыцця, калі ўсе былі маладыя і здаровыя.

Папулярнасць «сацыяльнай гісторыі» таксама здымае праблему вывучэння галоўных рухаючых механізмаў савецкай дзяржавы. Новыя маладыя палітычныя лідары, якія выраслі ўжо пасля распаду СССР і шчыра жадаюць прынесці карысць сваёй краіне і народу, часта падпадаюць пад спакусу, калі знаёмяцца з поўнымі зачаравання і «рамантыкі чырвоных кастрычніцкіх нападаў» лозунгаў савецкага часу. Для Беларусі гэта асабліва актуальна, таму што палітыкі, якія прыйшлі да ўлады ў першай палове 1990-х гадоў у маладой незалежнай беларускай дзяржаве, гэтай спакусы не вытрымалі.

У Рэспубліцы Беларусь захавалі ад вынішчэння, а потым пачалі і адраджаць шмат якія здабыткі савецкага часу развіцця, тыя ці іншыя структурныя элементы савецкай дзяржавы. Сярод тых палітыкаў было і ёсць папулярнае выказванне, што савецкая сістэма — самая сацыяльна арыентаваная ў свеце, ідэалагічна накіраваная на захаванне інтарэсаў працоўных, гнуткая і эканамічна эфектыўная. Толькі трэба «выправіць» гістарычныя памылкі, звязаныя ці то з асаблівасцямі масонска-сіяніцкай змовы супраць Расіі, ці то з праявамі культаў асобы, ці то з неспрыяльнымі міжнароднымі абставінамі, асабліва з наступствамі апошняй сусветнай вайны, ці то з нядобразычлівымі адносінамі краін-суседзяў.

Але, на шчасце ці на жаль, гісторыю нельга выправіць. Тым больш не выпраўляецца савецкая гісторыя.

Традыцыйна лічыцца, што галоўным рухавіком развіцця савецкай народнай гаспадаркі з'яўляліся рашэнні партыйных структур і з'ездаў або вышэйшых службовых асобаў Камуністычнай партыі СССР і Беларусі. Разам з тым, у дзяржаўнай машыне існавалі адмысловыя органы, якія мелі адной са сваіх галоўных задач забеспячэнне працэсу эканамічнага развіцця краіны ў адпаведнасці з пазначанымі вышэйшымі органамі савецкай і партыйнай улады напрамкамі і параметрамі. Гэтыя органы працавалі ў цесным кантакце з органамі дзяржаўнага палітычнага і гаспадарчага кіравання, пракуратурай, судамі, рознымі іншымі кантралюючымі структурамі, валодалі часткай іх функцый.

Структуры гэтыя ў свеце маюць звыклую назву спецслужбаў, у Беларусі яны называюцца органамі дзяржаўнай бяспекі. У розныя часы савецкай Беларусі яны называліся надзвычайнымі камісіямі, палітычнымі ўпраўленнямі, наркаматам унутраных спраў, камітэтам дзяржбяспекі.

Глыбока сімвалічна, што прыхільнасць да савецкага дзяржаўнага ладу спалучылася з жаданнем захаваць савецкую назву галоўнага рухавіка эканамічнага прагрэсу — Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Кіруючым элітам быў дадзены знак, які яны зразумелі дастаткова правільна.

Гісторыя савецкай Беларусі першай паловы XX стагоддзя непарыўна звязаная з гісторыяй СССР: працэсы, характэрныя для гэтага дзяржаўнага ўтварэння, адбываліся тут, не асабліва адрозніваючыся ад працэсаў, напрыклад, у цэнтральнай Расіі, хоць і са сваёй спецыфікай. Прывязка да эканомікі Расіі застаецца і да сёння.

## Сучасны НЭП

Галоўная навіна любой восені, па версіі беларускага ТБ, — колькі зерня сабралі з палёў. Усе тэленавіны пачынаюцца з інфармацыі пра эканамічныя падзеі. Як і амаль 100 гадоў таму, эканоміка — галоўная палітыка ў Беларусі. Але падабенства не толькі ў гэтым.

У Беларусі з 1994 года намагаюцца пабудаваць тут сістэму, што была ў БССР падчас так званай «новай эканамічнай палітыкі» (НЭПу), з пачатку 1920-х і прыкладна да 1929 года.

У беларускай гістарычнай навуцы, як, дарэчы, і ў расійскай, у некаторых даследчыкаў назіралася і назіраецца пэўная рамантызацыя ленінскай ідэі — як з найменшымі стратамі для бальшавізму пераждаць паслярэвалюцыйную і пасляваенную разруху і пабудаваць квітнеючую камуністычную краіну. Сутнасць ідэі простая: дазволіць абмежаваную прыватную ўласнасць перш за ўсё ў сферы абслугоўвання, але захаваць уласнасць дзяржавы ва ўсіх важных для развіцця эканомікі галінах вытворчасці.

НЭП у нашай гістарычнай памяці асацыюецца не толькі з адносным павышэннем жыццёвага ўзроўню беларусаў, але і з такімі з'явамі, як беларусізацыя і каранізацыя (калі да кіраўніцтва краінай на ўсіх узроўнях павінны былі прыйсці прадстаўнікі беларускага ці карэннага насельніцтва, развівацца беларуская культура, культура карэнных для Беларусі нацыянальнасцяў і інш.), пачатак барацьбы з непісьменнасцю.

Безумоўна, перыяд НЭПу быў адным з найважнейшых станоўчых этапаў развіцця БССР як дзяржаўнага ўтварэння. Але ці была гэтая форма насамрэч найлепшай?

## Эканоміка — перш за ўсё

Акрамя поспехаў ад дзеяння інстытута прыватнай уласнасці, хоць і абмежаванага, у савецкай Беларусі для развіцця эканомікі ўжываліся іншыя, больш моцныя патаемныя вагары. Гэтымі вагарамі былі спецслужбы, якія ў тыя часы называліся ДПУ — гэтая новая назва была нададзеная супрацоўнікам Надзвычайных камісій, якія скампраметавалі сябе падчас так званага «ваеннага камунізму» рознымі злачынствамі. Менавіта падчас НЭПу гэтыя вагары былі створаныя, апрабаваныя і закладзеныя ў падмурак савецкай эканомікі як яе неад'емны складнік.

Ужо да сярэдзіны 1920-х гадоў дзейнасць дэпэушнікаў, ці, як іх называлі беларускія людзі, чэкістаў, з кантролю за палітычнай добранадзейнасцю перакрочыла ў галіну эканомікі. Тлумачылася гэта, як і сёння, тым, што ніякія палітычныя задачы не могуць быць вырашанымі без «заваёваў эканомікі».

У прывітальнай тэлеграме, накіраванай у ЦК КП(б)Б з нагоды сёмых угодак Кастрычніка сакратаром партыйнай ячэйкі ДПУ Беларусі Волкавым у лістападзе 1924 года, адзначалася: «...У нас ёсць не толькі жывыя белагвардзейскія ворагі, але шмат і іншых велічэзных перашкодаў — гэта гаспадарчае будаўніцтва. НЭП ператварыць у камунізм — вось наша цяжкая задача. Ператварыць 1/6 частку зямнога шара ў рэвалюцыйную кузню, у якой будуць каваць пралетарскія камуністычныя молаты для стварэння Чырвонага Кастрычніка і ў іншых заходнееўрапейскіх пакуль яшчэ буржуазных дзяржавах. І гэтага мы даможамся, а закладам нашай перамогі з'яўляецца наша гаспадарка, што аднаўляецца гіганцкімі крокамі».

У «ператварэнні НЭПу ў камунізм» спецслужбам адводзілася асаблівая роля — роля галоўнага кантралёра за ўсімі аспектамі сацыяльнага і эканамічнага развіцця.

## Тайная форма Дзяржкантролю

У ДПУ быў створаны адмысловы аддзел — эканамічны, які збіраў інфармацыю пра эканамічнае развіццё Беларусі, ён называўся скарочана ЭКА. Для работы ЭКА стварылі асведамляльную сетку, дзейнасць якой рэгулявалася адмысловай Інструкцыяй аб асведамляльнай службе. У адпаведнасці з інструкцыяй, агентурна-асведамляльны апарат павінен быў складацца з масавай асведамляльнай сеткі, сакрэтнай агентуры і штатных агентаў. Інфарматары вербаваліся апаратам сакрэтных упаўнаважаных пры Інфармацыйным аддзеле сакрэтнага аддзелу ДПУ «на патрыятычнай аснове» — гэта значыць, без сістэматычнай грашовай узнагароды. Восенню 1922 года былі ўсталяваныя дзве катэгорыі пазаштатных супрацоўнікаў — інфарматары і паведамляльнікі.

Інфарматары — штатныя работнікі ўстаноў і прадпрыемстваў, грамадскіх арганізацый, прадстаўнікі розных груп насельніцтва горада і вёскі. Галоўнай задачай інфарматараў было «асвятленне настрояў» і спраў на прадпрыемствах і ва ўстановах, праца кіруючага і адміністрацыйна-гаспадарчага апаратаў. Паколькі афіцыйна ў дзейнасць кааператываў і прыватных прадпрыемстваў спецслужбы ўмешвацца не маглі, яны дзейнічалі галоўным чынам праз інфарматараў. Паведамляльнікаў у Беларусі называлі таксама «сачкомы» — ад слова «сачыць».

У снежні 1922 года былі сфармуляваны агульныя палажэнні дзейнасці ЭКА:

«1. Асновай працы эканамічнага аддзялення павінна быць усебаковае асвятленне ўсяго эканамічнага жыцця Беларускай Рэспублікі з мэтай выяўлення ненармальных і злачынных бакоў, у выглядзе эканамічнай здрады, тэхнічнай здрады, эканомшпіянажу, буйнога сабатажу, падробак і да т.п. 2. Галоўную ролю ў працы эканомаддзелаў павінна адыгрываць кваліфікаванае спецыяльнае асведамленне. 3 гэтай мэтай яно павінна мець пастаяннае назіранне і кіраўніцтва з боку пам. начальніка па эканомасвятленні. 3. Приступіць да неадкладнага насаджэння спецыяльнай агентуры па гаспадарчых органах для вядзення спецработы па буйных агентурных распрацоўках. 4. Звесткі, здабытыя пра працу таго ці іншага гаспадарчага органа негалосным шляхам, павінны супастаўляцца з паралельна атрыманымі звесткамі асведамляльнага характару, і ўсё гэта да ўсталявання факту павінна канцэнтравацца ў літарнай справе, а пазней вылучацца ў агентурную справу, затым, пасля заканчэння аперацыі, заводзіцца следчая справа...».

ЭКА таксама выяўляла «палітычную фізіяномію кіраўнікоў і работнікаў прадпрыемстваў і ўстаноў», характарызавала іх і перадавала атрыманую інфармацыю ў сакрэтнае аддзяленне. Была рэгламентаваная дзейнасць і мясцовых падраздзяленняў ЭКА: «2. Для вывучэння ўсіх бакоў гаспадарчага жыцця губерні варта стварыць у адпаведных галінах прамысловасці сетку інфарматараў з ліку спяцоў. 3. Разам з працай па вывучэнні буйной прамысловасці звярнуць асаблівую ўвагу на сельскую гаспадарку і падуладныя ёй установы як непасрэдна звязаныя з буйной прамысловасцю». Гэта ўказвалася ў рэзалюцыі, прынятай 5 сакавіка 1922 года на з'ездзе начальнікаў палітбюро (так тады называліся мясцовыя аддзяленні ДПУ) Гомельскай губерні.

Ужо ў дакладзе аб працы ДПУ Бел. за снежань 1922 года

# дзяржаўнай прамысловасці»

паказвалася, што ЭКА праз асведамленне выканаў 73 заданні, атрымаў 80 інфармацыйных зводак аб дзейнасці асобных устаноў. Былі заведзеныя следчыя справы — з нагоды буйных крадзяжоў на мінскай бойні, злоўжыванняў у Койданаўскай нарыхтканторы, злоўжыванняў у сельскім падсобным пункце Мазырскай нарыхтоўчай канторы і іншыя.

Супрацоўнікі ЭКА падрабязна інфармавалі сваё кіраўніцтва пра змены, якія адбываюцца ў сувязі з новай эканамічнай палітыкай. «З дакладаў высветлілася, што працоўныя імкнуцца перайсці на прыватныя прадпрыемствы, дзе аплата вышэй... Увогуле, усе прыйшлі да такой высновы, што адзінай умовай для ўзняцця прадукцыйнасці на нашых прадпрыемствах з'яўляецца забеспячэнне працоўных усім неабходным, як то: адзеннем, харчаваннем і прадметамі шырокага спажывання. Практыка паказала, што ніякія прымусовыя захады не дапамогуць да таго часу, пакуль працоўныя не будуць адчуваць сябе матэрыяльна забяспечанымі».




Фота НЧ




## Кадры вырашаюць усё

Да 1929 года ДПУ БССР не імкнулася ўзяць на сябе выпраўленне недахопаў у эканоміцы. Атрыманыя аператыўным шляхам звесткі адпраўляліся ў той дзяржаўны орган, які мог ці павінен быў сітуацыю выправіць. Паралельна інфармацыя накіроўвалася кіраўніцтву ЦК КП(б)Б, у асабліва важных выпадках — першаму сакратару ЦК КП(б)Б. Напрыканцы паведамленняў, дакладных запісак стаялі дзве стандартныя фразы: «накіроўваецца для вашага рэагавання» ці «для вашага інфармавання».

Усе матэрыялы, якія выходзілі са спецслужбаў, з'яўляліся сакрэтнымі. Пасля прачытання адрасат абавязаны быў вярнуць іх у інфармацыйны аддзел ДПУ, яны захоўваліся там пэўны час, а затым падлягалі знішчэнню або перадачы ў архіў ДПУ.

Акрамя інфармацыі аб працы прадпрыемстваў збіраліся звесткі аб добранадзейнасці супрацоўнікаў. Гэтай інфармацыяй шырока карыстаўся размеркавальны аддзел ЦК КП(б)Б. «З нагоды вылучэння НК аховы здароўя кандыдатуры Алонава Я.Ф. на пасаду рэктара ветэрынарнага інстытута, які адкрываецца ў Віцебску, ЦК КПБ просіць паведаміць, ці не маюцца ў Вас звесткі, кампраметуючыя гр. Алонава, якія могуць перашкаджаць вышэйадзначанаму прызначэнню», — такія лісты на імя кіраўніка ДПУ дасылаліся ў сувязі з прызначэннямі на кіруючыя пасады любога ўзроўню. Пры прызначэнні ва ўстановы, якія мелі дзяржаўнае значэнне або сакрэтнасць, правяраліся і шараговыя службоўцы. Так, пры накіраванні нават камуністаў на працу ў мытныя органы, запыталіся органы ДПУ.

Асаблівая ўвага надавалася праблемам, якія маглі выклікаць масавую незадаволенасць, — выплаце зарплаты, умовам працы, адносінам да дзяржаўных ініцыятываў. Звесткі аб затрымцы заработнай платы дасылаліся як сакратару ЦК КП(б)Б, так і ў інфармацыйны аддзел АДПУ ў Маскву ў выглядзе спецыяльных паведамленняў.

Так, 14 лютага 1925 года была дасланая наступная спецзводка: «Па наяўных у нас звестках Вітбуд (аддзяленне Белдзяржбуда) у дадзены момант перажывае востры фінансавы крызіс. Рабочым зарплата не выплачаная за 4 месяцы, за выключэннем частковых авансаў, выдадзеных на пачатку студзеня бягучага года. Рабочыя перастаюць верыць, што ім заплацяць, і з кожным днём усё больш і больш настойліва патрабуюць неадкладнай выплаты.

У выпадку, калі зарплата не будзе выплачаная неадкладна, непазбежныя эксцэсы. Вітбуд самастойна ліквідаваць запазычанасць не ў стане з-за адсутнасці ў касе грошай, таму шта Упраўленне Паветранага Флоту ў Маскве да гэтага часу не выплаціла грошай на пабудову 8-мі ангараў, матывуючы тым, што выканаўчы каштарыс складзены Вітбудам няправільна. Пытанне перададзенае на рашэнне судовых органаў, але да іх рашэння атрымання грошай не прадбачыцца. Запазычанасць рабочым і служачым дасягае 30 тыс. рублёў. У дадзены момант пакінута ўсяго толькі 14 служачых і каля 50-ці чалавек працоўных, астатнія ж звольненыя, аднак разлік з імі не зроблены».

## Бясконцая барацьба з бюракратыяй

У кастрычніку 1926 года разгарэлася чарговая кампанія па барацьбе з бюракратызмам у дзяржаўных установах. Прадпрыемствам даручылі правесці рэарганізацыю, скараціць колькасць пасад, пацвердзіць абгрунтаванасць службовых акладаў. Спецслужбам даручалася праверыць правільнасць рэарганізацыі на прадпрыемствах.

У бюлетэні «Аб ненармальнасцях у працы БелШкло» ў кастрычніку 1926 года адзначалася беспадстаўнае павелічэнне зарплаты інжынера, што месца звольненай машыністкі заняў агент па немаведама чаму і «ў сутнасці нічога не змянілася», штатным работнікам прыпісаныя нагрузкі, якія яны не выконвалі; супрацоўнікі выкарыстоўваюць дома 10 тэлефонных апаратаў, у той час як ва ўстанове іх толькі 6; нарыхтоўшчыку сыравіны з Маскоўскай канторы дадаткова выплачваецца 150 рублёў за працу, якая ўваходзіць у яго службовыя абавязкі. Звярталася ўвага на нізкую кваліфікацыю супрацоўнікаў, на тое, што «праект ваннай печы пажырае шмат паліва», што існуе авансавая запазычанасць служачым трэста.

Першапачаткова дзейнасць ДПУ абмяжоўвалася «паведамленнямі» кіраўніцтву пра недахопы развіцця эканомікі. Некаторыя недахопы выпраўляліся, але ў цэлым паляпшэння сітуацыі не назіралася. Сітуацыя ў сярэдзіне 1920-х гадоў была падобная на сённяшнюю — дрэннага кіраўніка «абмяркоўвалі» на пасядженнях партыйных органаў, пазбаўлялі адной кіруючай пасады і накіроўвалі на іншую. Скарачэнне пасад і нават устаноў праз некаторы час стымулявала павелічэнне іх колькасці.

Дзяржаўна-партыйная і гаспадарчая бюракратыя даволі хутка стала самадастатковай і не хацела мець ніякіх абмежавальнікаў для ўласнага ўзбагачэння. НЭП жа не толькі даваў самыя шырокія магчымасці для ўзбагачэння чыноўніцтва, але рабіў гэтае ўзбагачэнне прывабным і жаданым.

Частка вышэйшага кіраўніцтва СССР даволі хутка заўважыла гэтую асаблівасць развіцця НЭПу. Для барацьбы з бюракратычным уплывам вырашылі яшчэ болей пашырыць уплыў спецслужбаў, каб, абапіраючыся на іх, змагацца з гэтай новай формай контррэвалюцыі. Узначаліў барацьбу спачатку Фелікс Дзяржынскі, а пасля яго раптоўнай смерці — Іосіф Сталін, які даволі хутка гэты НЭП і скончыў.

## Крымінал у галіне эканомікі

Каб пашырыць магчымасці спецслужбаў паўплываць на развіццё эканомікі, іх дзейнасць атрымала юрыдычнае абгрунтаванне. 15 лістапада 1928 года ў Крымінальным Кодэксе БССР былі вызначаныя «контррэвалюцыйныя злачынствы ў галіне эканомікі».

«Контррэвалюцыйныя злачынствы ў галіне эканомікі» караліся па трох артыкулах КК БССР — 69, 71 і 75. Усе яны належалі да «расстрэльных», то-бок прадугледжвалі пакаранне не толькі ў выглядзе пазбаўлення волі не менш за 3 гады, канфіскацыю маёмасці, паразу ў правах, але і расстрэл вінаватага.

Расстрэл мог прымяняцца за «падрыў дзяржаўнай прамысловасці, транспарту, гандлю, грашовага звароту або крэдытнай сістэмы, а таксама кааперацыі, зробленыя з контррэвалюцыйнымі мэтамі, шляхам адпаведнага выкарыстання дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, або супрацьдзеянне іх нармальнай дзейнасці, а роўна выкарыстанне дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў або супрацьдзеянне іх дзейнасці зробленыя ў інтарэсах былых уласнікаў або зацікаўленых капіталістычных арганізацый» (арт. 69), а таксама за псаванне дзяржаўнай маёмасці (арт. 71) і «свядомае невыкананне кім-небудзь пэўных абавязкаў ці наўмысна нядбайнае іх выкананне са спецыяльнай мэтай паслаблення ўлады ўрада і дзейнасці дзяржаўнага апарату» (арт. 75).

Апошняя група злачынстваў называлася «контррэвалюцыйны сабатаж». Прычым прадугледжвалася пакаранне не толькі за ўжо выкананыя дзеянні, але і за арганізацыйную дзейнасць па іх падрыхтоўцы, а таксама за ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі (арт. 76). Да асабліва небяспечных злачынстваў належалі таксама кантрабанда, парушэнне працоўнай дысцыпліны на транспарце, парушэнне правілаў валютных аперацый, выраб фальшывых грошай. Захады «сацыяльнай абароны» таксама былі суровыя — ад трох гадоў пазбаўлення волі да расстрэлу.

Да іншых злачынстваў супраць дзяржаўнага кіравання ў галіне эканомікі адносіліся: нясплата падаткаў, адмова ад выканання работ, якія маюць дзяржаўнае значэнне, «злоснае невыкананне пастаноў і правілаў, якія забяспечваюць паспяховую калектывізацыю сельскай гаспадаркі, у тым ліку злосны забой і распродаж жывёлы (рагатай і асабліва коней) з мэтай перашкодзіць правядзенню мерапрыемстваў па абагульненні жывёлы».

Караўся забой коней без дазволу ветэрынарнага лекара, ухіленне ад пастаноўкі на ўлік інжынерна-тэхнічных работнікаў, а таксама іх адмова перайсці на іншую працу па рашэнні органаў працы. Крымінальна караліся кіраўнікі прадпрыемстваў, устаноў, гаспадарак за парушэнне планавага размеркавання рабочай сілы, тэхнічнага рэжыму, вытворча-тэхнічнай дысцыпліны.

Крымінальнае пакаранне накладалася «за парушэнне законаў, пастаноў і правілаў, якія рэгулююць гандаль і прамысловасць, за выпуск недабраякаснай або некамплектнай прадукцыі». За выпуск прадукцыі з парушэннем «абавязковых стандартаў» дырэктары, галоўныя інжынеры і начальнікі аддзелаў тэхнічнага кантролю караліся як за «шкодніцтва».

Падлягалі крымінальнаму пераследу парушэнне правілаў будаўнічых работ, парушэнне правілаў устаноўкі механічных рухавікоў, «продаж, абмен або водпуск на бок адпушчанага прадпрыемствам абсталявання і матэрыялаў, якія сталіся залішнімі і нявыкарыстанымі».

# Такі хакей беларусам не трэба?

Сяргей КАЙКО

**Калі нумар ужо быў накіраваны ў друкарню, мінскае «Дынама» распачало чарговы сезон у Кантынентальнай хакейнай лізе.**


Фота www.hcdinamo.by
**Дзмітрый Баскаў: не ведаю, як мая грамадзянская пазіцыя можа паўплываць на наведвальнасць матчаў «Дынама»**

Пад дахам «Мінск-Арэны» «зубры» сустракаліся з фінскім «Ёкерытам». Іншым разам гэта б выклікала ажыятаж, і прыхільнікі каманды запоўнілі б 15-тысячныя трыбуны, але не цяпер. Шматлікія заўзятары адвярнуліся ад «Дынама».

## Байкот з патрабаваннямі

16 жніўня. Сведчанні пра катаванні на Акрэсціна — галоўная тэма ў сацсетках, тэлеграм-каналах і афлайне. Сотні тысяч беларусаў збіраюцца на самую масавую акцыю ў гісторыі Беларусі. У гэты ж дзень фанацкая суполка «Дынама» «By Zone» адрасавала кіраўніцтву клуба публічны зварот, у якім дала зарок больш не наведваць матчы «зубраў». Прычыны заўзятары сфармулявалі вельмі даходліва: «Нам сорамна атаясамліваць сябе з грамадзянамі, якія падтрымліваюць агрэсію сілавікоў і генацыд беларускага народа». І падкрэслілі: «Фальсіфікацыя выбараў, сілавое ўтрыманне ўлады, парушэнні Канстытуцыі і Крымінальнага кодэксу, гвалт у адносінах да мірных людзей з боку праваахоўнікаў — гэта ўсё мы назіраем у апошнія дні на вуліцах, у гарадах нашай краіны, нашай сталіцы».

Байкот фанатаў — фактычна да таго часу, пакуль «Дынама» не выканае наступныя патрабаванні. Клуб павінен афіцыйна і галосна: «выступіць з асуджэннем рэпрэсій АМАПу на вуліцах, у мясцовых РАУС ды ізалятарах часовага ўтрымання»; «прызнаць неабходнасць вызвалення затрыманых мірных дэманстрантаў і палітзняволеных»; «назваць мінулыя выбары нелегітымнымі і заклікаць да правядзення новых выбараў з сумленным і празрыстым падлікам галасоў».

Немагчыма ўявіць, што хоць адно з агучаных патрабаванняў будзе пачутае дынамаўскім менеджментам. Гэтаму прынцыпова супярэчаць паводзіны клубнага кіраўніцтва.

## «Мінск-Арэна» з Міхалком

Вядома, што хакейнае «Дынама» — праект імя Лукашэнкі. І ў КХЛ каманда гуляе з яго вярхоўнага дабраславення. І спонсары клубу дапамагаюць, бо так хоча дзяржава. І нават стратэгічныя пытанні развіцця, уключаючы кандыдатуры гендырэктара і галоўнага трэнера, кажуць, узгадняюцца на самым версе.

Гэта ніколі не было сакрэтам, але да пэўнага часу не перашкаджала камандзе і яе заўзятарам жыць у гармоніі. Клуб спрабаваў не звяртаць увагі на палітыку і пазіцыянаваў сябе амаль як нацыянальны культурны феномен. Прагрэсіўны, сучасны, крэатыўны. Вышыванкі, арнаменты, беларуская мова… Усё гэта мела месца на «Мінск-Арэне», а аднойчы, у лютым 2017-га, там нават выступіў Сяргей Міхалок са сваім BRUTTO. Што цікава, знакаміты рокер-карбанарый выканаў тады песню «Наша возьме» — тую самую, якую сёння можна чуць на мінскіх акцыях пратэсту.

Гледачам такі акцэнтаваны маркетынг і творчая актыўнасць падабаліся, і яны крочылі на хакей з вялікай ахвотай. Нярэдка рабілі аншлагі, яшчэ часцей стваралі на гульнях цудоўную і цёплую атмасферу, якая спакваля стала візітнай карткай хакейнага Мінска.

Асобным гонарам клуба была статыстыка наведвальнасці. Доўгі час «Дынама» заставалася лепшай камандай КХЛ па колькасці заўзятараў на хатніх гульнях, і гэта сведчыла пра высокі ўзровень даверу з боку людзей.

Калі ідылія разбурылася? Складана сказаць — гэта адбывалася паступова. Галоўнай прычынай сталі, бадай, кепскія спартыўныя вынікі «Дынама». І тое, што гэтаму спадарожнічала.

А спадарожнічала відавочная стагнацыя. Нягледзячы на гучныя дэкларацыі аб абавязковым выхадзе ў плэй-оф, у апошнія гады «зубры» ў КХЛ гуляюць зусім бездапаможна. У мінулым сезоне ўвогуле сталі самай горшай камандай лігі. Ганебныя няўдачы з буйным лікам, рэдкія перамогі, рэкордная серыя з 12 паразаў запар, няўцямныя апраўданні трэнераў і функцыянераў… Усё гэта падмывала падмурак «Дынама», і колькасць гледачоў на трыбунах пачала прадказальна змяншацца. Антырэкорд адбыўся ў матчы з падольскім «Віцязем», які сабраў на трыбунах усяго 5372 чалавекі.

## Грабоўскі з патрэбай

Дзесьці ў той жа час з асаблівым імпэтам сярод заўзятараў і спецыялістаў загучаў рэфрэн: а яно нам трэба? Навошта Беларусі хакейны клуб-флагман, за які так часта бывае сорамна? На якую халеру выдаткоўваюцца мільёны долараў дзяржаўных сродкаў, запрашаюцца дзясяткі дарагіх легіянераў? Каб бачыць на табло чарговыя лузерскія лічбы?

Ужо да гэтых прэзідэнцкіх выбараў «зубры» падышлі з моцна сапсаванай кармай. У сеціве клуб усё больш паласкалі, згадваючы сярод іншага дзівосныя, хаця і кропкавыя прыклады канфармізму. Так, аднойчы адзін з трэнераў — славуты ў нядаўнім мінулым нападаючы Міхаіл Грабоўскі — кінуў «зуброў» непасрэдна пасярод матчу, бо яго чакалі больш важныя справы. Былы энхаэлавец сарваўся на гульню каманды Лукашэнкі ў аматарскім Калядным турніры.

Зрэшты, з гэтым хакейная публіка яшчэ магла неяк мірыцца. За чвэрць стагоддзя мы прызвычаіліся да сваёй адмысловай рэчаіснасці, і на яе сюррэалістычныя эпізадычныя праявы навучыліся заплюшчваць вочы. Пакуль не прыйшлі прэзідэнцкія выбары–2020, рэзка абвастрыўшыя грамадскі тэмперамент і маральны нерв. Тут якраз і выявілася, што тое, давыбарнае, «Дынама» было яшчэ кветачкамі — толькі прадвесцем ягадак, што набухнуць у ліхаманкавым жніўні.

## Дзядзькі з прынцыпамі

У выбарах гульцы «Дынама» прынялі ўдзел 7 жніўня. Датэрмінова, адным гуртом — усё як доктар прапісаў. На сайце клуба далікатна патлумачылі: маўляў, сярод трэніровак і ва ўмовах каронавіруса якраз узнік такі вольны дзень — чаму б не выканаць свой грамадзянскі абавязак?

За каго аддалі галасы «зубры» — пытанне рытарычнае. Пытанне іншае, што той супольны, як у арміі, марш на выбарчы ўчастак хакеісты здзейснілі ў кантэксце брыдкай гісторыі з двума прадстаўнікамі клубнай прэс-службы.

Два Раманы — Стронгін і Шаўцоў — да жніўня, здаецца, не мелі нараканняў да сваёй працы і ў журналісцкім асяродку характарызаваліся выключна станоўча. Як прафесіяналы і адказныя хлопцы. І так сталася, што кіраўніцтва звярнулася да іх з творчым заданнем, ад якога немагчыма адмовіцца. Ці то змайстраваць агітацыйны ролік да дня выбараў, ці то ў патрэбным ракурсе паказаць датэрміновае галасаванне гульцоў… Цяпер тое ўжо не мае значэння. Паказальна, што абодва Раманы палічылі гэтую прапанову непрымальнай. І не зрабілі тое, чаго ад іх хацелі.

Вынік — традыцыйны для нашай дэмакратычнай долі. Строгін і Шаўцоў былі вымушаныя звольніцца. Навіна пра гэта падняла магутную інфармацыйную хвалю, у падтрымку прынцыповых супрацоўнікаў выказалася шмат людзей. У тым ліку і фанаты «Дынама», якія адрасавалі ім зварот са словамі: «Вельмі шкада, што ў чарговы раз з клуба сыходзяць годныя людзі. Але спадзяёмся, што нашы шляхі зноў перасякуцца, калі бура сціхне. Удачы, дзядзькі!»

## Баскаў з пляшкай

Галоўны дзядзька ў сённяшнім «Дынама» — гэта гендырэктар Дзмітрый Баскаў. Бадай, менавіта ён — хэдлайнер працэсаў, якія настройваюць грамадскасць супраць хакейнага клуба. Больш за ўсё гендырэктар адзначыўся на ніве нагляднай агітацыі за Лукашэнку ўжо пасля выбараў.

Падчас праўладнай хвалі мітынгаў, куды, па шматлікіх сведчаннях, звозілі бюджэтнікаў, Баскаў быў заўважаны некалькі разоў. Самы яскравы выпадак — знакаміты відэаролік з салону аўтамабіля.

На першым плане там кіраўнік клубу, які, седзячы на пярэднім пасажырскім крэсле (добра, што не за стырном), цягне з гарла гарэлку «Прэзідэнт» пад песню «Саня застанецца з намі!».

Гэты акт узорнай эстэтычнай пошласці Баскаву будуць узгадваць яшчэ доўга. Але гэта, зразумела, не дасць забыцца і на тое, якую фантастычную кар'еру робіць гэты малады яшчэ чалавек у апошнія гады. Некалі пасрэдны варатар экстралігі, лёсавызначальны імпульс ён атрымаў, калі быў прызначаны трэнерам прэзідэнцкай каманды. Прыкладна ў той жа час Баскаў узначаліў і дзіцячую каманду «Грыфоны», за якую гуляў Мікалай Лукашэнка.

Далей — толькі наперад і ўверх. Цяпер гендырэктар «Дынама» паралельна і член выканкама НАК, і ўваходзіць у Раду дырэктараў КХЛ, і ў праўленне «БСБ Банка», і адзін з уладальнікаў брэсцкага акумулятарнага завода… Напрыканцы лета спіс пасадаў падоўжыўся — Баскаў узначаліў і Беларускую федэрацыю хакея.

Менавіта ў гэтай якасці, дарэчы, такі рознабакова дасведчаны чалавек на мінулым тыдні браў удзел у цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў Кубка Салея. Справа была ў Гомелі, і там сталічны фронтмэн, здаецца, упершыню адчуў стаўленне да сябе з боку трыбун. Пачуўшы знаёмае прозвішча, гомельскія гледачы загулі-засвісталі ў красамоўнай абструкцыі.

У аўторак Баскаў даваў прэс-канферэнцыю і адзначыў: «Мая грамадзянская пазіцыя адкрытая і публічна агучаная. Не ведаю, як яна можа паўплываць на наведвальнасць матчаў. Але хачу сказаць, што хакей павінен аб'ядноўваць людзей».

Не, Дзмітрый Юр'евіч, такі хакей калі і аб'яднае, то толькі ў салідарнасці пратэсту. Тым больш, што вашы гульцы працягваюць паводзіць сябе так, быццам у краіне нічога не адбываецца. І пакуль яны маўчаць, заўзятары будуць галасаваць нагамі. І зусім не засумуюць, калі «Дынама» зноў ушчэнт праваліць хакейны сезон.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1476

Падпісана да друку 03.09.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.